АЛЕСЬ АРКУШ

# ПЕСЬНІ
# ЛЯ ЗАМКАВАЙ ГАРЫ

*вершы (1985–2014)*

Выдавецкая ініцыятыва “Полацкае ляда”
2015

## АД ВЕТАХА ДА ПОЎНІ

Нарэшце з’явілася магчымасьць прачытаць пад адной вокладкай значную частку вершаў, напісаных Алесем Аркушам.

У 1994 годзе ў праграмным эсэ “Саломінка пострамантызму” Алесь Аркуш прадчувае новую глыбіню, новы рух, новы крыгаход у жыцьці й паэтычнай творчасьці. Як уратаваць паэта й паэзію ў сацыяльна-культурнай эклектыцы? Можа, трэба згарнуць Сусьвет (наколькі гэта магчыма) у сабе й потым знайсьці ў Сусьвеце сваё месца адпаведна зь яго таямнічай гармоніяй? Толькі б не скуліцца ў замкнёным гістарычным моманце!

Разьбіць вакно і разглядзець сусьвет,
Які ад грошай не залежыць,
Які ня мае пэўных межаў,
Які адразу немаўля і дзед…

…Сусьвет, як вецер, як аблокаў рух,
Я не стамляюся за ім імкнуцца…

Марыцца жыцьцё без супраціву, навязанага звонку. Ці ўдасца стварыць у сваёй душы ўнутраны супраціў? Гэта — адна з галоўных тэмаў-праблемаў пострамантызму.

Асноўная ідэя зборніка — бег часу, адчуваньне, разуменьне, спасьціжэньне ідэалу. А таксама — нацыянальная ідэя як аснова трываласьці сьвету.

Вобраз месяца — маладзіка й ветаха — настойліва нагадвае пра зьменлівасьць сьвету й часу:

Зноўку нашыя спадзяваньні —
Як жарынкі, што рушылі ў космас.
Ветах будзе трымацца да раньня,
Распаўсюдзіць таемныя позвы.

Ветах сьцеражэ мінулае, назапашвае прастору быцьця. Малады ж месяц прыхаваўся да пары. Але яго час прыйдзе!

Прачніся, ліхтар, што Пяруне пакінуў;
Таемна вяртаецца месяц малодшы
У трантах з куфэрка сям’і Арлекінаў.

У паэзіі Алеся Аркуша — не маладзіковая ўшчэрбнасьць і чаканьне поўні Вялікага Максіма, не станоўчы адказ на ягоны покліч “Будзь жа век малады!”.

Ліхтароў сьляпыя вочы,
Шэры воблак, белы дым —
Я ня буду маладым…

Толькі ветах, толькі ветах,
Пазнаю яго па твары,
Ходзіць над усім у кедах
І склікае да пажару.

Ды яго ніхто ня чуе:
За чыгункай горад сьпіць, —
Да дзяньніцы не будзіць…

“Патрэбны, як паветра, рызыкоўны чын”, — піша Аркуш у сваім праграмным эсэ. Ветах склікае да пажару. Ветах — перад сконам. Ня ведае ён, што за маладзіком прыйдзе поўня. Поўня — як сымбаль сусьветнай гармоніі, як ідэал Дабрыні й Прыгажосьці. У імя людзей, якія на працягу тысячагодзьдзяў назіралі месяц ад ветаха да поўні, — трэба жыць!

Увосень ападзе сухое лісьце,
увесну вырасьце новае —
і гэтак бясконца,
і гэтак вечна —
пакуль існуе дрэва,
пакуль ёсьць надзея,
пакуль з намі памерлыя…

Вакол нас — гушчар значэньняў, сымбаляў, знакаў, сэнсаў, якія чакаюць нашага выбару. Як разняволіць скуты розум і стлумленыя пачуцьці? І няма іншага выйсьця, апрача даверу да традыцый роднага дому, айчыны. Да ценяў нашых продкаў. Вандроўка да вытокаў… Безь яе немагчымы шлях да крэсаў даляглядаў.

Мой голас дакранецца да крыжоў,
Адчуе прахалоду ценяў…

…Тут ціха, тут ня трэба слоў.
І голас мой скандэнсаванай кропляй
Пакоціцца на дзедаў часаслоў…

Так, трэба вяртацца да родных кутоў, сагрэтых продкамі. Гэта — абарона супраць размываньня чалавека ў ананімнасьці соцыюму.

З майго сэрца вырасьце аер.
Ён ад ветру будзе ціха шамацець…
Сэрца — птах, што выбіўся ляцець,
Бо да неба страчаны давер.

Толькі птах ня стане на калені —
Крылы пературацца ў карэньні.

Паэт не ратуецца ад рэчаіснасьці, не ўцякае ў сьвет ідэяў. Ідэі, якімі б яны ні здаваліся разумнымі й прывабнымі, ня зьменяць сьвету без "закараненьня" ўва ўсеабдымным, зямным, ачалавечаным.

Чалавек заўсёды адчувае неадпаведнасьць застанай культуры для выразу сваёй сутнасьці. Адсюль — адвечны боль душы і — таксама адвечнае — імкненьне да ідэалу. Ідэал, аднак, ня можа доўжыцца, ня можа стаць будзённасьцю. Ідэал — у творчасьці, мера якой перавышае сёньняшнія патрэбы. У рэлігіі, мастацтве. І ў каханьні. Бо каханьне — гэта таксама творчасьць.

Ружа-кветка ўзышла паміж бруду —
Прыгажэйшай ня бачыў ніколі.
Паміж думак збуцьвелага хлуду,
Паміж трантаў хвілінных патоляў…

Але нават найпрыгажэйшыя ідэі, адчужыўшыся, могуць несьці боль і расчараваньне, калі яны робяцца ідэалягічнай зброяй, накіраванай на чалавека звонку. "Сінякрылы матылёк", "мятлік паэзіі" ня можа існаваць у ідэалягічным палоне.

У 1994 годзе Аркуш пісаў:

Сацарт, і ты мяне прымусіў
Сьпяваць у хоры мятлікаў-ахвяраў,
І я сьпяваў — як служка тваіх дзеяў,

Падмануты тваёю блешняй-словам,
Два месяцы і дзень з паловай
Я выштукоўваў верш, які спаліў пазьней.

Я сёньня вольны…

Аднак для чалавека творчая свабода ад нечага — стан недастатковы. Сапраўдная свабода — гэта свабода для нечага. Пад паверхняю будзённасьці варушыцца й шчыміць неспатольная патрэба выбару. Гэтая патрэба загадвае паэту шукаць новых крэсаў быцьця. Лірычны герой засвойвае застаную сістэму вартасьцяў і адначасова дарастае да пазначэньня вартасьцяў новых, яшчэ няясна зарысаваных. Яны дамагаюцца Слова як пачатку свайго існаваньня — Высокае прызначэньне, адметнасьць вымаўленага і напісанага Слова… Адказнасьць за Слова. Ці гэта не аснова нацыянальнай духоўнасьці ўва ўсе часы?

…Новыя надзеі — мне наканаваньне.
Годнасьць літары — магутны талісман…

Касмапалітычнага ўзроўню можна дасягнуць толькі пражыцьцём свайго, нацыянальнага.

…Іржышча захавае сьлед,
Сьняжок нібыта.
Сусьвет глядзіць вачмі камэт
На квадры жыта.

Гэтая радкі, відавочна, і ёсьць універсальная мастацкая формула нацыянальнай ідэі.

*Алена Ніякоўская*

## АБЛОКІ

Я за аблокамі сачыў
І кожнаму даваў найменьне.
Цьвяліў вятрыска далячынь —
Іменаў паскараў зьнікненьне.

Аблокаў большасьць найхутчэй
Зьнікала ў мройве далягляду.
Як несла іх далоў з вачэй!
Як гнаў вятрыска іх зацята!

Імёны нішчыў ён, але
У небе ўбачыў я аблокі.
І як вятрыска ні шалеў,
Яны трымалі дух высокі.

*1987*

## ДА НЕБА

Здароў, Груган! Ты — птах, я чалавек.
Дзе крылы у цябе — я маю рукі.
Ты не крыўдуй на гэты несусьветны зьдзек —
Прабач, я выдумляю ад пакутлівай дакукі.

Лунай, Груган!

Груган за неба паляціць.
Яму за небам хопіць месца.
А я радзіму буду сьніць,
Яна мне кропелькай здаецца.

Ты пачакай мяне, Груган,
Мы разам паляцім да неба,
Пачуем велічны арган,
Пабачым — крылы ці патрэбны.

І я зьдзіўлюся — звыкся сьніць —
Воч не стае Радзіму ахапіць!

*1986*

## ПІЛЬНЯ

Бярвеньне дарэшты на дошкі зьвялі —
Як шчыльна пілоўку у штабелі сьцелюць!
Ля пільні ад хвояў кара да зямлі
Прыстала жыўцом, як да новага цела.

Па звычцы чакаюць бярвеньне дзядзькі:
Працоўныя рукі — нястомныя служкі.
І ляды вядуць, як заўжды, напрасткі —
Да пільні, да гвалту, да дошак, да стружкі.

*1987*

## АДБІТКІ

Люстэрка трымае да ночы адбіткі:
Рахманыя, ветлыя, хіжыя твары.
І маюць яны, нават самы някідкі,
Імёны свае, як расьліны ў гербарыі.

А ноччу адбіткі пакінуць люстэрка,
Пасыплюцца долу — заб’юцца ўтрапёна,
Як талеры важкія з бомкай манеркі, —
І профілі згубяць дазваньня імёны.

*1987*

## ПУШЧА. СОВЫ

Куды вы ляціце, містэрыі совы?
Па душу ізгоя аморфнай будовы?
Шукаць паратунку за плоймай Парыжаў?
А мо куды бліжай?

Куды вас вядзе птах надзьмуты, вучоны,
На крылах якога паўмесяц чырвоны?
Чамусьці азваўся Скарына Францішак:
— У цішу.

*1985*

## УЦЁКІ

Уначы Вурдалак галасіў.
Ў Мёртвым возеры білі званы.
Я з апошніх падманлівых сіл
Пілаваў на сабе кайданы.

Гэта ноч для уцёкаў — як ёсьць.
Я ня ведаю лепшых замоў:
Абароніць мяне прыгажосьць,
Захавае ад скону любоў.

Што мне жахі твае, Вурдалак?
Ты ў памыйныя здрады ня ўлез.
Вечарніца, як змоўніцкі знак,
Мне сьцяжыну пазначыла ў лес.

Ў Мёртвым возеры білі званы…

*1987*

## ПОЗІРК

Са сквапнага даўняга веку
Апошні скалечаны тур
У вочы глядзіць чалавеку
Праз незваротнасьці мур.
Глядзіць нерухома, сіберны.
Навошта тлумачыць, дарма!
Калі абуджаецца зерне,
Шчымліва сьпявае сурма.

*1985*

## ХРАМ І СЛОВА

Я ніколі у храме ня быў,
Я ня ведаю храма сьвятога.
Толькі сьніў каляровыя сны,
У якіх нараджалася слова.

Нараджалася ў храме — з аблокаў.
Я трываў,
Я трываў —
І заплакаў.

*1988*

## ЯБЛЫКІ

У неба яблыкі ўзьляталі,
А зь неба падалі каменьні.
І людзі з боскім утрапеньнем
Глыжы ў садох сваіх зьбіралі.

Яны дзівіліся, як дзеці,
Яны былі на сёмым небе:
— Гніляк няхай бы трапіў дзесьці…
— Відаць, падзейнічаў малебен.

Зімой дзівіліся нанова:
— Вось гэта, братка, захаваньне,
А што цьвярдыя для ўжываньня —
То яблык сьпее адмыслова.

Чакаюць людзі — як умеюць, —
Калі ўжо яблыкі пасьпеюць.

*1988*

## Сівыя лісты

Гэта роспач пісала, ня я,
Гэты ліст напаўзмрочнай парою.
Гэта вецер віхурнага дня
Ліст прыбіў да магілы героя.

Хто яму прачытаў гэты ліст?
І няўжо тыя словы кранулі?
Бо ён жыў невядома калі,
Ў час далёкі: між дзідай і куляй.

Бо сплыло столькі рознай вады,
Неспакойна і сёньня герою…
Мне прыходзяць сівыя лісты,
Ды атрамант бярэцца крывёю.

*1986*

# КРУМКАЧ

Крумкач вяртаўся ва ўчарашні дзень,
Ён абгінаў Зямлю хутчэй яе вярчэньня.
Інакш пражыць хацеў судовы дзень,
Каб здрадніцтвы свае схаваць ад пакаленьняў…

Жыцьцё як сон — павекі толькі ўзьняў…
Чаргуюцца мясьціны: Вільня, Коўна…
З усіх існуючых зямных праяў
Вяртаньне ва ўчарашняе найбольш умоўна.

Крумкач вяртаўся — ён у часе зьнік.
Адразу зьнікла пачуцьцё напрамку руху…
У цемрадзі стагодзьдзяў бразгацеў цягнік,
Дагнаць які ня хопіць ні жыцьця, ні духу.

*1987*

## ЖЫТА

Я ніколі ня бачыў такога жыта:
як лес,
        як мора,
                як сусьвет.
Яно разумнае жыта, яно жыве.
Чую — у жыце плача немаўля.
Я ўрываюся пад шаты калосься.
Бягу — і плач сьцёгае па твары.
Спыняюся — і плач зьнікае.
Дарэмныя мае пошукі.
Марныя мае патугі.
Зьнямога дзьме сустрэчным вятрыскам.
Я стаміўся ўшчэнт.
Ледзь жывы падаю на дол.
Плач адразу зьнік.
"Ці ня трызьнілася мне?" — зацеплілася думка,
і я спрабую супакоіць сябе.
Ды пошапт калосься сьвідруе мне душу.

*1986*

## ЦІШКАВАЕ ПОЛЕ

Дынастыя рахманых вепрукоў
наведвае ў цямрэчы Цішкавае поле,
дзе некалі садзілі людзі бульбу,
дзе засталіся пудзілы зь мяхоў,
ў якіх гаспадары прывозілі ўгнаеньне.

Шукаюць безупынна і нястомна
свае ўлюбёныя прысмакі,
— штурхаюцца,
      бяскрыўдна рохкаюць адзін на аднаго.

Нішто не замінае справе ўночы,
але ўсё роўна асьцярога не зьнікае,
бо ля дарогі засталося гумавае кола
і дзьве рыдлёўкі ў хмызьняку чакаюць, —
напэўна вернуцца гаспадары.

*1986*

## СТАРЫ ДУБ

Гайдаюць пругкія галіны,
Сваволяць жалуды-малечы.
Сьпякотных тыдняў успаміны
Дуб занатоўвае пад вечар.

Забыўся на мясьціну гэту
Пяшчотны дождж сівых абшараў.
Ды ведаю, наложыць вета
На сьпёку колішняя хмара.

*1985*

## НЕМАЎЛЯ

На сьнезе знайшлі немаўля —
У неба глядзіць і ня плача.
Далонька сьціскае імя —
Адзіную спадчыну.

Марозу яго не працяць,
І сьнег не пячэ халадэчай.
Гілі ўсьлед за сонцам ляцяць,
І бачыць іх толькі малеча.

Ніякіх ня ведае слоў,
Свабода — дзіцяці калыска.
Існуе ў сьвеце яно
Як сьнег, як мароз, як вятрыска.

*1988*

* * *

Шукае лекавыя травы
Сабака брудны, нехлямяжы.
Паміж няіснасьцю і явай
Прашкандыбае — зноўку ляжа.

Няўжо ня знойдзе і загіне?
Няўжо ў Чырвонай кнізе лекі?
Цьвітуць у дворыках вяргіні,
Буяюць флёксы ля аптэкі.

*1985*

## СТАЛЁВАЯ РЫБА

Рыба губляе луску —
Сталь дамагаецца цела.
Па мэталёвым пяску
Рыба зьнямогла ляцела.

Чуеш — як скрыгат расьце,
Воды стаўбурацца ў гудзе?
Безьліч сьмяротных асьцей
Рэчцы патрапілі ў грудзі.

Бачыш — хвалюецца сталь,
Срэбныя воды ўскіпаюць?
Чайка і хлопчык-вудаль
Марна ратунку гукаюць.

На мэталёвым пяску
Сьлед пісягом застаецца.
Рыба, згубіўшы луску,
Блешняй сама абярнецца.

*1987*

## ТРАСКА

У кансэроўцы зварухнулася траска.
І плаўнікі запрацавалі, што вінты.
У плаўнях морквы і лаўровага ліста
Яна ўсплывала са статычнае вады.

Марудзіць час… Лятуць вякі…
Траска ўсплывае — новы мацярык.
Ня ведаюць спакою маракі.
Лунае акіянам рыбін крык.

*1985*

## ВОЎК

Я заплюшчваю вочы і бачу ваўка.
Ведаю: ён мой вораг.
— Каб ты спарахнуў! — крычу што ёсьць моцы. —
Каб ты захлынуўся крывёю сваіх ахвяраў!
Я паслабляю павекі — гляджу.
Воўк ня зьнік, але, нібыта спужаўшыся,
адбег на бясьпечную адлегласьць.
— Каб ты спарахнуў! — крычу яшчэ мацней
і, разьятраны, подбегам набліжаюся да яго!
Я трызьню помстай!
Я вар’яцею ад злосьці!
Воўк валюхаста пабег мне насустрач.
Ад гэтага я разьюшваюся ўдвая.
Я сам раблюся падобным да ваўка.
Няхай! Няхай да д’ябла! Няхай да ваўкалака!
Бо шэры — мой вораг! Я трызьню помстай!
Яшчэ імгненьне — і я пашкамутаю гэтую погань!
Побач прабег куртаты сабачка.
Цяжка дыхаючы, я спыняюся,
заплюшчваю вочы і бачу Ваўка.

*1987*

* * *

Сьвет наш ня ведае райскіх мясьцін,
Мусіць, яны толькі ў кнігах ды песьнях
Клічуць вандроўнікаў мройным узьлесьсем.
Сьвет наш ня ведае райскіх мясьцін.

Прывіднай зьнічкаю думка ўваскрэсьне:
Досыць рабіць пісягі каляін —
Сьвет наш ня ведае райскіх мясьцін,
Мусіць, яны толькі ў кнігах ды песьнях.

Зьнічка хвіліну трымціць…

*1988*

## ВАБІК

Забі пярун мяне — я чую
Выразны сумны голас твой!
Наперадзе чарот сьцяной.
Праз чараты на кліч прастую,
Бо голас — ТВОЙ!

Хаваюць неба чараціны.
Хапаюцца за ногі балаціны.

А голас кліча, мкне, чароўны,
І працінае мне душу.
Марудна як! Хай парашут
Мяне на голас выкіроўваў.
Я захліснуў бы парашут!

Сьцяну апошнюю патрушчыў.
Насупраць — праз лагчыну — пушча,
Дзе пад кашлатаю ялінай
Дзьмуў паляўнічы ў чараціну.

*1987*

***

Вэнэра пацеркай мігціць,
У аскетычны космас запрашае.
Камэты срэбнаколерная ніць
Тчэ немаўлятам стужкавыя шалі.

У цемры нараджаецца жыцьцё.
Сусьвет — нібыта казачна-умоўны,
Чаканьне — як паўночнае ліцьцё
Расплаўленага месяца у чоўны.

*1985*

## ХАЛЕПА

Вандроўнік маўчаў,
                    ён быў дзіўны вандроўнік,
Сядзеў і маўчаў, як нямко.
На вуліцы халепа сьмеціла слотай —
Найбольш пад вакном у сьвятло.

Які ж ты вандроўнік —
                    мармоль засьцянковы,
Калі назапасіць гісторый ня змог.
Праз халепу месяц сьляпіўся замовай,
Як новы вандроўнік ступіў на парог.

А потым яшчэ і яшчэ, як навала,
І цесна зрабілася ў хаце
                                са шкла і металу.

Гарбатай усіх частаваў —
                    і чатыры фаеркі няспынна
Выключна займаліся вырабам кіпеню…
          — Ты дзіўна падобны да Анцева сына, —
Прамовіў з гасцей нехта ў сьпіну мне.

І болей ні гуку, у цішу закуты.
Я сьціснуў далонямі вушы — пакута.

*1986*

## ЧОРНЫЯ ПТУШКІ

Чорныя птушкі фарбуюць нябёсы
Ў жудасны колер.
Голае поле. Дарога. Калёсы.
Вецер у коле.

Чорныя птушкі фарбуюць нябёсы…
Птушак няволяць —
Гоняць, як хмару, птушыныя лёсы.
Вецер у коле.

Чорныя птушкі фарбуюць нябёсы…
Цьмяна у полі.
Пругкія крылы, як вострыя лёзы.
Вецер у коле.

Чорныя птушкі ўсадзілі ў нябёсы
Крылы.
Даволі!
Ўпалі на глебу чырвоныя сьлёзы…
Вусьцішна ў полі.

*1987*

## НАТОЎП

Натоўп рухаецца па шляху, брукаваным
жывымі чалавечымі галовамі.
На адзіным дрэве
ўскрай бясконцай людской плыні
пугачом сядзіць вірлавокі дзядзька.
— Хадынка нібыта, Хадынка нібыта… —
бесьперапынна мармыча ён.
Ці ён папярэджвае, ці ён пытаецца?
Натоўп моўчкі абмінае дзівака.
Каб неяк прыхаваць пачатак і канец,
масянжовы месяц спрабуе захінуць
залатое сонца. Але сонца паглынае цемру,
і натоўп — як на далоні. Толькі дзе той пачатак,
дзе той канец? Углядайся да зьнямогі,
а калі стомісься, то шлях, брукаваны
чалавечымі галовамі, зьдзівіць
бязьлюдзьдзем.

*1987*

## НА ВЕЧАРЫ ПАЭЗІІ

*Анатолю Сысу*

О, колькі нас, вояў,
Мянціць языкамі,
І то калі ў гэтым
Няма небясьпекі.

— Ты сам паспрабуй.
…І стаю перад вамі,
І вусны дранцьвеюць,
І шэпты, як зьдзекі.

З чаго распачаць
Мне размову, каб словы
Прытулак знаходзілі —
Ў душах сагрэцца?

Якія узрушыць
Жыцьцёвыя сховы,
Каб грукала слова
Ад сэрца да сэрца?

Хвіліны маўчаньня
Даўжэй за гадзіны.
З чаго распачаць?..
Пачынаю з Радзімы.

*1987*

## ДЭЛЕГАТ

Сто тысяч людзей дэлегата
Сем дзён выбіраюць на Сойм.
Сто тысяч пытаньняў узьнята.
(Багата прыкрыюць крысом.)

Дзьве тысячы кандыдатаў
Люд вынес на суд грамады.
Зь іх кожны прамоўца выдатны
І вораг нішчымнай вады.

Зь іх кожны грамадзкі руплівец…
А гэты глядзіць немаўлём.
Хто ў позірк паверыў шчымлівы?
Хто праўду заблытаў жыцьцём?

*1988*

## Я САМ УБАЧЫЎ

Не пазычай мне сваіх воч,
Я сам убачыў, не дзіця,
Сусьветаў бездань — калі ноч,
А калі дзень — мяжу жыцьця.

Яшчэ я ўбачыў птушкі сьлед,
Што на шляхох вятроў, аблок,
І як займаецца сусьвет,
Дзе панаваў мярцьвячы змрок.

І цуды дробныя — наўзбоч,
Не патрабуюць адкрыцьця.
Не пазычай мне сваіх воч,
Я сам убачыў, не дзіця.

*1987*

## МЯНТУЗ

У сонных водах рэчкі Гайна
Жыцьцё віруе разнастайна.
Міталягічныя істоты
Мянтуз пакінуў без работы.

Як вадзянік, людзей пужае,
Лятае ноччу на кажане.
Сарвецца — плёх — буйныя хвалі
На строме рэчку абганялі.

А рыбакам замест улову
Заблытаў лёскі адмыслова.
Гучней за музыку “Дып папал”
Раўлі гурбою — ну і д’ябал!

*1988*

## ГОСЬЦЯ

Ты ўвайшла нечакана, імкліва.
Я пісаў і нічога ня чуў:
Ад гранёнага слова шчасьлівы,
І ад роспачы сьлёзы ўваччу.

Ты ўвайшла і як сябру сказала:
— Добры дзень, кандыдат на Парнас!
Ты прабач, на хвілінку з вакзала…
Ну як справы? Відаць, ужо ас?!

Прыгадала былое здарэньне,
Толькі ў ім я сябе не пазнаў.
— Вось прывезла літроўку варэньня,
Гэта вішні, як ты заказаў.

І пайшла, і як воблака зьнікла,
Нават дзьверы ня рыпнулі ўсьлед.
Толькі білі гадзіньнікі звыкла
Ды літроўку разглядваў буфэт.

Хто яна, таямнічая госьця?
Я ня ўспомню, ня ўспомню ніяк!
Гэта сон, гэта мне падалося…
Слоік вішняў — пакутлівы знак.

*1985*

## НА ПАЛЯВАНЬНІ

Бусел — балотны каморнік —
Мерае багну рупліва.
Шчыльны трысьнёг ледзьве горне
Вецер — стары і сварлівы.

Порсткі сабака, як укапаны,
Раптам замёр, быццам ён з парцаляны.

*1985*

## ХІЖЫ ЛАНЦУГ

Жаўнеры набліжаюцца спрактыкаваным ланцугом,
Стваламі карабінаў размыкаюць вецьце,
Раструшчваюць, нібыта яйкі ў гнёздах, росы,
Жахлівым крокам вымяраюць лёс ахвяры.

Якога Марса служкі вурдалачаць?
Каго шукаюць здані ў нашым лесе?
Стагодзьдзі пераблыталі, няйначай.
Іх песьня,

Як сабачы брэх, мурашыць сьпіну.
Выцьцём пазатыкалі сабе вушы,
Ня чуюць дрэва, птушку, чалавека,
І толькі рулі касавурацца, як зрэнкі.

Жаўнеры сунуліся хіжым ланцугом,
Сьпявалі птушкі, размаўлялі дрэвы,
Заходзілася плачам немаўля…

*1988*

## РАСПЛАТА

*У люстэркі лістоты*
*глядзіцца сонца.*

Зьняважыў злачынца дрэва
Абразай ілжывых слоў,
У сьпіну нібыта стрэліў,
І словы атруцілі дол.

Як трызьніла дрэва сутоньнямі!
Як моташна лісьце гуло!
Наўкольныя парасткі кволыя
Ня ўзьнімуцца ўжо на крыло.

Ня трэба ні шроту, ні пораху —
Люстэркі на дрэве зіхцяць…
Нацэліла зброю на ворага,
І полымя бег не суняць.

*1987*

## ІНДУСТРЫЯЛЬНА-ХІМІЧНЫ ДЖАЗ

Зноў людзкія адбіткі заганныя,
Як музыкі, ў нябёсах лятаюць —
Працінаюць пякельную ноч.
Нараджаюць мэлёдыі танныя:
Дзьмуць у комінаў доўгія пальцы,
Дзьмуць да чырвані пацерак-воч.

Іх музычны імпэт без падману —
Не жартуюць браты-блюзьняры.
Уздымаюцца клубы туману,
Тлум цярушыцца на ліхтары.

Што паперныя столі і дахі!
Тлум укрые таксама і нас.
Тлумны час, як заўсёды, ня ў час.
І мацнеюць мэлёдыі жаху,
І цярушацца пёрамі птахаў —
Вар’яцее атрутны джаз.

*1988*

## ЗДРАДНІК

Хто хаваецца ў лесе днямі?
— Гэта зраднік, — адказвае сыч. —
На скарэлым шынэльным лямцы
У кустоўі, як мёртвы, ляжыць.

Тое мейсца абходзяць зьвяры.
Толькі хмарай над ім камары.

Ён баіцца, аднак, зварухнуцца,
Ён чакае цямнейшай начы:
Каб да твані паўзьці — дацягнуцца,
Каб у багну ад нас уцячы.

*1986*

## А РАПТАМ...

Што калі раптам нашчадак,
Крануўшы таемнасьці ключык,
Праз процьмы мінулых стагодзьдзяў
Нат’ кволую думку агучыць?

*1985*

* * *

Жоўкнуць пачуцьці, паштоўкі, надзеі.
Восень ня ведае збою.
Толькі сапраўднае, шчырае сьпее
І ўзыходзіць вясною.

*1986*

## КАРЦІНА

Я марна шукаў яе ў сёньняшнім сьвеце,
Міналі, здаецца, стагодзьдзі.
Яна, як жывая, жыла на партрэце.
Сказалі: карціна у Лодзі.

У Лодзі сказалі: карціна ў Парыжы.
Ў Парыжы ня чулі ніколі.
Дзядуля сівы падказаў: у Нясьвіжы
Жыве яна зь месяц, мо болей.

Вярнулася ўрэшце… заўсёды я верыў…
Няхай на партрэце, няхай праз стагодзьдзі…
Шырэй расчыніце пудовыя дзьверы —
Я да людзей панясу Багародзіцу.

*1987*

## ЗІМОВЫ САД

Калі я вяртаюся дахаты,
мяне штораз сустракае зімовы сад.
Ці то туга ахінае
заўсёды зімою,
ці то сад мой зачараваны?
Хаджу па садзе і прыслухоўваюся
да яблыняў.
Маўчаць карані,
маўчаць ствалы, маўчаць галіны.
Жахліва ад гэткае цішы.
І тады я пачынаю сьпяваць:
няўмела, кволым голасам.
На маю песьню азвалася дзіўная
птушка — аяльга.
Я ніколі яе ня бачыў, ды ведаю —
гэта яна.
Птушка села на ябланевую галіну,
прыцярушаную сьнегам,
і весела зацёхкала.
Адкуль яна ўзялася ў маім
сіберным, маўклівым садзе?

*1990*

## МОЙ ДОМ

На высьпе, па суседзтве з балотам,
будую свой дом.
Кожны дзень адзначаны
плённай працаю.
Кожны дзень можна перайменаваць
у вынік гэтае працы.
Адно кепска — няма дарогі
да ўзнаўляемага котлішча.
Што зробіш — вакол балота:
нават бярвёны выпадае насіць
на сваіх плячох.
Неяк цэлы дзень самазвалы
вазілі жвір —
ладзілі дарогу.
Ды балота той жвір праглынула.
Вось і сёньня мае родныя і сябры
прыходзяць да мяне пешкі.

*1990*

## САЛАМЯНЫЯ ПТУШКІ

Саламяныя птушкі лётаюць
пад белаю стольлю.
Скразьняк гойдае іх
у кватэрнай прасторы.
Каляровыя ніткі вяртаюць
птушак назад.
Каляровыя ніткі ніколі
не губляюць адваротных шляхоў.
Каляровыя ніткі — як сьцьверджаньне,
што за даляглядам канец сусьвету.

Саламяныя птушкі аздабляюць
пакой.

Саламяныя птушкі, як сьнег —
за якім насьцярожлівасьць.

*1990*

***

Павольна сунецца цягнік,
аднастайна бразгае адчыненымі
дзьвярыма.
Пасажыры час ад часу
саскокваюць на зямлю
і йдуць побач са сваімі вагонамі —
разьмінаюць ногі.
Павольна сунецца цягнік —
і нікога гэта не зьдзіўляе,
не абурае, не бянтэжыць —
бо цягнік сунецца па коле.

*1990*

## СПАДЧЫНА

Малады паэт з дапамогаю сьпірытызму
сам-насам гутарыў зь Янкам Купалай.
Пра тое, што ён пачуў, юнак нікому
ня кажа — толькі ўсе ягоныя сябры
і знаёмцы заўважылі, як зьмяніўся
хлопец — стаў змрочным і нелюдзімым.

*1990*

## НА РЭШТКАХ НЕВЯДОМАЙ СПАРУДЫ

— Сьцеражыся гэтых людзей, — папярэджвалі
сваякі, — невядома, што ад іх можна чакаць.
— Абыходзь іхнія сходкі, — казалі зычліўцы. —
Нашто табе слухаць вар'яцкія трызьненьні?
І толькі любімы настаўнік ніколі ня ўзгадваў
пра людзей, якія зьбіраліся
на рэштках невядомай спаруды.
Ён казаў пра справядлівасьць, сумленьне
і гонар.

Аднойчы, насуперак усім засьцярогам,
я прабраўся на небясьпечнае мейсца.
І — дзіва — там я сустрэў
свайго настаўніка!

*1989*

## АПОШНІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Слухаю апошнія паведамленьні —
нецікава: падзеі адбыліся,
катастрофы здарыліся,
спаборніцтвы прайшлі —
зьніклі, памерлі.
Каму патрэбна няіснае?
Спрабую настроіць свой
прыймач на іншае.
Гартаю радыёхвалі, як старонкі
таўшчэзнае скрэмзанае кнігі.
Чуйна ўслухоўваюся ў далёкія,
ледзь чутныя галасы.
Як ні спрабую — нічога не атрымліваецца,
але ж я ўпарта працягваю росшукі:
адны навіны — таямніцы,
другія — апошнія паведамленьні.

*1990*

## ЛЮСТЭРКІ

Вакол нас — скрозь люстэркі.
Неба — люстэрка
і зямля — люстэрка,
люстэркі — сябры
і люстэркі — ворагі,
і дрэвы, і зоркі,
і дамы, і тратуары,
і кроплі дажджу…
Адначасова мы адлюстроўваемся
ва ўсіх люстэрках, якія
акаляюць нас, —
памнажаемся, скажаемся,
памяншаемся, павялічваемся
і… зьнікаем.

*1990*

## ПАМЯЦЬ

Ніхто ня ведае, хто пахаваны
пад гэтым крыжам.
Ліхалецьці і пошасьць не захавалі
імя ў людзкой памяці.
Невядомая жанчына на Радаўніцу
наліла гарачага крупніку ў місу
і пакінула побач з пахілым крыжам.

Другі год не астывае крупнік.
Другі год уздымаецца пара.

*1989*

## КРЭСІВА І ЦЭРА

*(урыўкі з паэмы)*

### I

Чаму бядота любіць зьяўляцца
ў шчасьлівы, ціхамірны час?
Яна цікуе, падпільноўвае яго —
на дыбачках пяройдзе мяжу нечаканасьці,
падкрадзецца ззаду
і сваімі лядашчымі, кашчавымі далонямі
заплюшчыць вочы чарговай ахвяры.
Не — гэта ня сьмерць, гэта бядота.
Яна салодка зарагоча
і па-сяброўску плясьне па плечуку.
— Не пазнаў, даражэнькі? Што гэта ты
калоцісься, чыста мышанё?..
У голасе бядоты пяшчота і спагада
гаспадыні лёсаў.
Яна гвалтоўна пачынае шчаміцца
ў сардэчныя таямніцы і мары.
Пазбавіцца прысутнасьці госьці немагчыма —
яна робіцца ценем, пакутным двайніком,
ліхтаром, які сьлепіць вочы;
яна можа прыйсьці
да сотні, тысячы, мільёну
ці нават да ўсіх людзей уадначасьсе —
усім хопіць яе лядачых далоняў,
яе зьедлівага рогату
і ўчэпістых дамаганьняў.
Ці існуе ў сьвеце сіла,
якая здольная перамагчы гэтую пошасьць?
Ходзіць у народзе пагалоска —
ёсьць ад бядоты замова.

— Што гэта за замова? — пытаюся я ва ўсіх.
— Гэта меч праўды, — кажа адзін.
— Гэта кальчуга шчырасьці, — пераконвае другі.
— Гэта шалом гонару, — пярэчыць трэці.
— Гэта штандар волі, — упэўнены чацьверты.
І кожны адказвае розна.
Каму даць веры?
Пэўна, ніхто дакладна ня ведае
старую замову,
людзкая памяць не захавала
яе цалкам.
Здаецца, і я ведаю аскепак замовы:
— Гэта крыж сумленьня.

## IV

........................ ........................

Атрымліваецца як у казцы:
я павінен знайсьці крэсіва і цэру,
каб распаліць вогнішча,
вогнішча дапаможа перамагчы халадэчу
і пачуць голас званіцы,
голас званіцы навучыць мове Вялікага
і я ўзнаўлю старую замову.

## VIII

........................ ........................

Крэсіва і цэра — як малітву
Паўтараю дзіўныя словы,
Гляджу на зорнае неба —
І зоркі складаюць літары —
КРЭСІВА І ЦЭРА,

слухаю рып гонкіх, сьпічастых елак
і чую — кррэссіва і цэрраа.
Якім дробным здаецца ўсё астатняе!
Як шкадую я тых людзей, якія
ня зьведалі гэтага.
Я чую няўхільнае набліжэньне —
гул зямлі і неба —
магчыма, сунецца навальніца?
Ці землятрус?
Крэсіва і цэра — нібыта канец нітачкі,
за які трэба пацягнуць, каб ратаваць усіх.
Хтосьці будуе сабе сутарэньні —
ён упэўнены, што ўчас схаваецца
і пераседзіць ліхалецьце.
Хтосьці прароча крычыць —
жывем першы і апошні раз.
Але ці магчыма, каб некалькі лістоў
казалі за ўсё дрэва?
Увосень ападзе сухое лісьце,
увесну вырасьце новае —
і гэтак бясконца,
і гэтак вечна —
пакуль існуе дрэва,
пакуль ёсьць надзея,
пакуль з намі памерлыя.

*1991*

## КАТРЫНКА

Пяць мэлёдый катрынка сьпявае,
Толькі ведай — круці рукавятку.
Люд у скрыню да старца кідае
Неўміручага жыта зярняткі.

Грай, катрынка,
Сьпявай безупынку.

Лес прачнуўся, дзе зараз палі, —
Гонкіх дрэў загулі вершаліны.
Перасьпелі на сонцы маліны,
А ў цямрэчы яшчэ не цьвілі.

Грай, катрынка,
Сьпявай безупынку.

Як дакладна чаргуюцца гукі —
Мэталёвая нудзіцца скрынка,
Спрацаваныя, ссохлыя рукі
Круцяць жыцьці ў тужлівай катрынцы.

Грай, катрынка,
Сьпявай безупынку.

Гук мэлёдый, як позірк забыты,
Як вада зь ледзяшамі ў палонцы.
Люд кідае апошняе жыта,
А у скрыні ўсё роўна на донцы…

Грай, катрынка…

*1988*

## ВЕТАХ

Зноўку нашыя спадзяваньні
Як жарынкі, што рушылі ў космас.
Ветах будзе трымацца да раньня,
Распаўсюдзіць таемныя позвы.

Вершалінамі дрэвы ня з намі,
Вершаліны — паверх таямніц.
Адлятае лістота клінамі
Без гайворанаў і сініц.

Сочыць рухі бяскрылыя ветах,
Распачатыя ўверх кагадзе.
На дагледжаны зорны палетак,
Як насеньне, лістота ўпадзе.

*1989*

* * *

Над балотам захад сонца.
Пасярод, нібыта рана,
Багны дрогкае вакенца
Чырванее. За парканам
З трысьнягу, аеру, хлуду
Цішыня — як погляд Бога,
Быццам там чакаюць цудаў,
Ці даўно няма нікога.

*1990*

***

Закаханым агні запалілі
На балотах вядзьмаркі ізноў,
Фасфарычным сьвятлом заманілі
Ў незваротныя нетры лясоў.

І блукае агульнае рэха
Паміж чэзлых асін і бяроз,
Быццам сьлёзы між звонкага сьмеху,
Быццам сьмех паміж роспачных сьлёз.

*1992*

* * *

*Алегу Мінкіну*

Уночы лес цяжарны рухам,
Гайданьнем хвояў і ялін.
Спыніся, сябра, і паслухай:
Ты не адзін.

І зноў, як позву таямніцы,
Сягоньня роўна ў пяць гадзін
Убачыш надыход дзяньніцы
Ня ты адзін.

*1992*

## ЯГО СУСЬВЕТ

Яго сусьвет нагадваў лёхі,
Дзе ў два бакі шугаў скразьняк,
Дзе выпраменьваў да зьнямогі
Сьляпую чырвань нашчы гляк.

Жарынка кволая трымцела
У гляку — бытта ў каміне,
І ў лёхах, як дзяньніца, сьпела
Гадзіна, што нябыт скране.

У гляку скразьнякі сьвісталі
І спорна чырвань разьдзімалі.

*1987*

* * *

*Вінцэсю Мудрову*

Прачынаюцца вульканы,
Як надзеі на спатканьні.
(Кожны са сваім Каранам),
З попелу — сівыя здані.

Вогнедыхаючы колер
Насьцярожліва вітае
Тых, каму кватэрнай столі
Вышыня ўжо замалая.

На вагромністай сьпіртоўцы
Распалілі ў небе месяц.

Дым трымаецца ядлоўцам
На адным прыватным мейсцы.

*1992*

* * *

Гаспадар мясьціны цнотнай,
я ахоўнік, служка, брат,
я раўнівец — твар каменны,
думкі — зброя й стырно.

Я вяртаю ліст палёту,
як жыцьцё, як белы сьвет.
Асалода адзіноты.
Бараніць мне ёсьць каго.

Пачынаю дзень з агляду,
што чабор, што дзівасіл.
Як атожылкі — расьліны,
думкі — існаму рука.

За сьцяной чарота — краскі,
твар каменны — змрочны стод,
цень самнабульскі наводдаль,
ценю гаспадар ня я.

*1991*

## ДРУГОЕ ВЯРТАНЬНЕ

Мейсца хвоі — для сустрэчаў,
што наклiканы лацiнкай,
дробных лiтарак нязвыкласьць,
нам сустрэча — адкрыцьцё.
Дачакацца дзён адлiгi,
дзён вясновага вяртаньня —
сум, як стужкi спамiж яблык,
да калядак — доўгi час.
Там, дзе хвоя нас чакае, —
хвоя месяцу ня дружка,
квадры — лiхтара мiгценьне,
там бурштыну дрогкi знак.
Мейсца вызначана лёсам,
на якiм вяртаньнi стрэча?
Лекаваць жывiцай — быццам,
толькi гэтак лекаваць.
Прамiнулi гурбаў скокi —
прасьпяваныя калядкi,
стужкi — напамiн пра сьвята,
квадру нашага быцьця.
Мейсца хвоi — падарунак:
не дыван з пажоўклай хвоi,
не жывая прахалода —
мружыць вочы: сонца — цень.
Нагадаюць успамiны —
сьцежка на пукаты ўзгорак,
дакрануцца да люстэрка,
памiж сонцаў: яблык — твой.

*1991*

* * *

Горад Мрою нішчуць коні,
грываў сьціжма, як настольнік.
Вартаўнік чытае кнігу —
у палоне ён, за шклом.
Капытамі па вяргінях —
пёркамі пялёсткі кружаць.
Тры люстэркі пасярэдзіне,
як пункціры аўтабана.
Коні памятаюць: досыць,
горад — гвалт нечалавечы.
Шлях на волю — аксыёма —
празь яго, праз мураванкі:
коні — ценькія шляхі.
Пад падковамі цыдулка
да цябе, мая Касандра,
пра фатальныя прыгоды,
восень словаў — мой паверх.
Замаруджаныя здымкі:
боль зьнікае, гвалт і роспач.
На рагу рэгуліроўшчык,
да Рамзэса ён падобны.

*1991*

* * *

Мары, як хмары, —
якое начыньне,
чым пачастуюць,
наробак які?
Гукі сітары
між зыркіх удараў
рэха памножаць
на шэпт асакі.
Чары, як кара, —
За гонар і веру:
гонар — як пыха,
а вера — басяк.
Млявасьць татараў,
што гоняць атару:
іклы ашчэрыш —
і справа — кізяк.
Спроба Ікара,
як покаты шара,
шлях які хочаш,
а ўрэшце — адзін.
Лебедзяў села на возеры пара,
воўк па мянушцы “халат санітара”
іх заўважаць не хацеў —
каранцін.

*1991*

## КАЛЯДЫ

*Уладзімеру Арлову*

Для калядак пазычу труса,
Роля зайца яму ў нашай казцы.
Будзе сьледам кульгаці ліса
У сяброўскай падманлівай масцы.

Наш маршрут праз сумёты й лес,
Дзе даўно не кугае зязюля,
Дзе пануе сучасны прагрэс
І блукае шалёная куля.

Мужыкі там гуляюць у віст,
А жанчыны — у хованкі зь лёсам.
Нашы песьні, як ветрыка сьвіст,
Толькі чуюцца ў комінах вёсак.

Ды на ганку хаціны старой
Мы дзяўчынку-паненку сустрэнем:
Будзем песьні сьпяваць для адной.
Заяц-трус адпачне на каленях.

*1992*

## АБРАЗ

Абраз трымаецца нібыта на цьвіку,
Які забіты ў шэры воблак.
Абраз нібы блізьня маладзіку —
Высока зіхаціць таемны воблік.

Ад позірку суровага зь нябёс
Жуда, як дзіда, працінае здайцаў,
І ўжо ня вабіць іх заганны лёс —
Па-змоўніцку ня слухаюцца пальцы.

І не схаваць вачэй — як бы хацеў,
і вытрымаць той позірк немагчыма, —
На кожнага, хто кат і ліхадзей,
Праменіць боль ён зыркімі вачыма.

*1989*

* * *

Мой голас дакранецца да крыжоў.
Адчуе прахалоду ценяў.
Спужае велічных смаўжоў,
Яны па сховах распаўзуцца з
годнасьцю аленяў.

Тут ціха, тут ня трэба слоў.
І голас мой скандэнсаванай кропляй
Пакоціцца на дзедаў часаслоў —
На ім і сёньня воск сьвяты растоплены.

*1992*

# РЫБАК

Шпурляў Ён блешню за аблокі
Наўмысна, — ды яму не шанцавала:
Вярталася зіхоткая прынада
Нішчымнаю. Але рыбак не наракаў
На нешчасьлівы лёс і не казаў,
Што зноў надвор’е не спрыяе:
Маўляў, бясконца дзьме вятрыска,
Халодна нават для душы.
Чатыры жнівеньскія тыдні
Ён адмысловую шпурляе блешню,
І кожная няўдача пакрысе
Надзеяй грэе стылую душу, —
І ўсё выразьней паўтараюць стомленыя вочы:
Там, за аблокамі, драпежнікаў няма…

*1992*

## ПАГАНЯТЫ

Паганяты страху ня ведае —
Быдла гоніць празь гібельны лес,
Папярэджаны строга кабетамі —
Каб у навалач гэту ня ўлез.

Там зьвяры крыважэрных намераў —
Бескарысна прасіць літасьцівасьці.
Там зьвяры велічэзных памераў
І кіпцюрыстай д’яблавай хцівасьці.

Паганяты той чхаў са званіцы
На дзіцячыя байкі кабетаў,
Бо за лесам лугі й крыніцы,
Трэ пасьпець — покуль сонца й лета…

Кажуць людзі, і сёлета чулі
Паганятага пугу.

*1992*

## ВАЛАЦУГА

Валацуга хаваецца ў нетрах,
Зашываецца ў самы гушчар:
Не хапае для волі паветра,
Не хапае прастору для хмар.

Страшна там — на раўнюсенькім полі.
А які Валацуга бяз волі?

*1989*

***

Ня чутны звыклыя мне словы.
Цяжкое неба — насьцярога.
Дзядзькі тваёй маўклівай змовы
Не пазнаюць даўно нікога.

За хмарай — хмара: пасьлядоўнасьць.
Якога д’ябла сьпяць атланты!
Трымаюць неба так цудоўна —
Што карыстаюць акупанты.

Гайдай, вятрыска, купал неба!
Нашто герою пляма здрады?
Па шчырасьці, ўсяго ж і трэба —
Пазбавіць навалач пасады.

*1992*

## АБСЯГ

Дастаткова адвечныя песьні сьпяваці,
Апантанасьць глушца замілоўвае хеўру.
Ваяры ноччу сьцелюць таемныя гаці,
Ладзяць новы абсяг для манэўру.

*1992*

* * *

Хаду суцішыў, і сягоньня
Пад сьпічастым дахам літары А
Мае думкі ў палоне
Ценю лёгкага матылька.

Новыя надзеі — мне наканаваньне.
Годнасьць літары — магутны талісман.
Быццам бы ў сонечнай нірване,
Межы пачуцьця — бясхітрасны падман.

Дазваляю побач быць, жывіцца
Моцаю бязьмежных, неспазнаных зьяў.
Праз свае вар'яцкія байніцы
Назірае з хіжасьцю вязьніца.
Вецер сьнег зь зямлі апошні зьняў.

*1992*

* * *

Над пожняй плачуць правады,
Амаль галосяць.
Бэтонны слуп, як правадыр,
Выводзіць восень.

Іржышча захавае сьлед,
Сьняжок нібыта.
Сусьвет глядзіць вачмі камэт
На квадры жыта.

*1988*

***

На шолах фіранкі — прамень сярод ночы.
Прачніся, ліхтар, што Пяруне пакінуў;
Таемна вяртаецца месяц малодшы
У трантах з куфэрка сям'і Арлекінаў.

"Дабранач", — пачуў, а магчыма здалося.
Я ведаю код, быццам індэкс на пошце.
Ключы вартаўнік у кішэні ня носіць —
Ня ведае, што ён вартуе, — навошта?

Сьвятло сярод ночы зьбірае ізгоеў,
Іх плойма таўчэцца ля брамы вялізнай.
Зь мільёнаў здабытых гаючых напояў
Адзін атрымаецца — з горыччу схізмы.

*1992*

## ЧОВЕН

Паміж хваляў човен чорны.
Ў рэчцы — чорная вада.
Не відаць на дне нічога —
Барада вадзяніка
Захінае дно старанна
І матляецца, як віж,
Таямніца дна схавана
Ад вачэй і рук паміж
Вечак ракавін замшэлых,
Хваляў чорнае ракі.
Ад вясла вакол цішэе
Сьпеў пудлівай асакі.
Рэчка сунецца няспынна,
Як у дрэве жыўны сок.
Човен лісьцікам з галіны
Ціха ляжа на пясок.

*1990*

## РУЖА-КВЕТКА

*Т. К.*

Ружа-кветка ўзышла паміж бруду —
Прыгажэйшай ня бачыў ніколі.
Паміж думак збуцьвелага хлуду,
Паміж трантаў хвілінных патоляў.

Асьляпляльнаю квеценьню белай
Зацьвіла яна раптам увесну,
І яе нечуваная сьмеласьць
Дакранулася сэрца балесна.

Дзякуй, дзякуй табе, ружа-кветка,
Маёй немачы лекар і сьведка.

*1989*

## ЗІМОВЫЯ ЛІХТАРЫ

Навошта песьні ліхтарам?
Маўчаць усё жыцьцё гатовы.
Шпурляюць сьнегам фраярам
На голыя галовы.

Цікава ім глядзець на сьвет
Сьвятлом свайго накалу:
На рух машын, хаду кабет,
На цішыню кварталу.

*1991*

## ЯШЧАРКА

*Антону*

У яшчаркі свае шляхі,
Свае таемныя сьцяжынкі,
Жыцьцё, схаванае ў імхі,
Пясок, каменьчыкі, сьцяблінкі.

Лісты, жыцьцё ў якіх усё, —
Шторанньня на пяску ля ганка,
Як гіерогліфы Басё,
Як вершык хоку або танка.

*1989*

* * *

З майго сэрца вырасьце аер.
Ён ад ветру будзе ціха шамацець…
Сэрца — птах, што выбіўся ляцець,
Бо да неба страчаны давер.

Толькі птах ня стане на калені —
Крылы ператворацца ў карэньні.

*1987*

# САЛОМІНКА ПОСТРАМАНТЫЗМУ

## 1.

Рака пад ледзяным панцырам. Адсутнасьць руху й глыбіні. Адсутнасьць рэакцыі на дзеяньне, адсутнасьць адкрытых жыцьцёвых праяваў. Нібыта жывая — нібыта мёртвая, нібыта слова — нібыта маўчаньне, нібыта рака — нібыта поле. Стан чаканьня, або летаргічнага сну, — ён часовы. Набліжаецца разьняволеньне. Наплывае новая вада. Працідзеяньне ёй толькі павялічвае вонкавы ціск. Не. Гэта хутчэй унутраны ціск.

Нельга знайсьці нейкую асобную праяву, ад якой залежыць нарастаньне ціску. Усё знаходзіцца ў непасрэднай сувязі з усім. КРЫГАХОД — непазьбежнае наканаваньне. Новая вада ўзрывае мёртвую абалонку. Адкрываецца глыбіня, узьнікае рух.

Крыгаход — чарговая зьмена якасьці.

Чарговы крыгаход. Кожны раз здаецца, што новы — гэткі ж, як і папярэдні. Аднак — не. Кожны раз ён іншы, эвалюцыйна іншы. Але нават калі б яны й былі заўжды аднолькавымі, усё адно ты мусіш успрымаць іх адрозна, з вышыні свайго нарастаючага досьведу.

Крыгаход — гэта заўсёды небясьпека, выпрабаваньне.

## 2.

Ты на ільдзіне. Навокал усё варожае, агрэсыўнае, хціваe. Ты патрапіў у крыгаход. Спалучэньне наканаванага, асабістага, рэлятыўнага. Вандроўка-выпрабаваньне. Няма сэнсу камусьці даводзіць свае перакананьні, свой погляд на рэчаіснасьць. Наўсьцяж рэтраспэктыўны рэалізм, падсьвядомыя дзеяньні (інстынкт самазахаваньня), мімікрыя экстрэмальнай умовы. Толькі прадчуваньне небясьпекі й актыўныя працідзеяньні ратуюць — аксыёма выпрабаваньня — у цяжкіх абставінах. Ты ня маеш вопыту кіраваньня ільдзінай (увогуле —

ці існуе ён?), але інстынктыўна мадулюеш ягонае галоўнае правіла — слухай сябе, вер у сябе, спадзявайся на сябе. Увесь папярэдні вопыт набыў легкаважнасьць паветранага балёніка. І ты адчуваеш — недзе побач лунае дух ПОСТРАМАНТЫЗМУ. Ты не супраціўляесься яму, й ён вольна пранікае ў цябе, дыфузыўна запаўняючы ўсю тваю сутнасьць. Пострамантызм пачынае прысутнічаць у тваіх словах, учынках, думках, крыві. Хто паклікаў яго? Крыгаход? Твая небясьпечная сытуацыя? Але ж якая карысьць ад яго на імклівай, хісткай ільдзіне? У кожнага чалавека бывае свой крыгаход на сваёй рацэ. Ці на кожнага ў гэткіх абставінах зыходзіць пострамантызм?

Напэўна, ты заўсёды быў схільны да рамантызму, і пострамантызм быў тваім наканаваньнем, як нараджэньне, як гэты крыгаход. Ты заўжды цікавіўся выключна сабой. Сусьвет пакідаў адбітак у тваім уяўленьні, й ты вывучаў яго, усьведамляючы, што вывучаеш самога сябе. Што з таго, што тваё ўяўленьне не дакладнае раўнюткае люстра, што твая трохвымерная прастора скажае сусьвет горш, чым рачныя хвалі — адбіткі аблокаў у вадзе. Галоўнае — працэс пазнаваньня. Ці зьяўляецца шкодным засвойваньне памылковых ведаў? І ці зьяўляюцца яны памылковымі для цябе, якога трохвымерная прастора моцна трымае ў сваіх абдымках?

Вось вам і спажыўная глеба для пострамантызму. Няма пэўнай дакладнасьці ўспрыманьня сьвету. Няма эталёну. І жадаемае часам успрымаецца за рэчаіснае. Але ж дзе тое рэчаіснае? Хто яго бачыў? І ўвогуле, ці магчыма яго пабачыць? Пострамантызм у такіх варунках — натуральная зьява. Ён выпраменьвае аптымізм, або, прынамсі, імкнецца да яго. Ягонай падвалінай зьяўляецца этычны й маральны вопыт (бо ён стваральны). Пострамантызм адмаўляе, не ўспрымае, ігнаруе розную брыдоту, бо, зноў такі, ягоная сутнасьць — стваральная.

Магчыма, твой пострамантызм — спадчынная праява. Гэта як пошук цыцкі для дзіцёнка. Усе спадчынныя праявы спрыяюць імкненьню захаваць жыцьцё. Яны найбольш яскрава сьведчаць аб сваёй прысутнасьці пры

небясьпечных варунках. Вось і зараз ты на сьлізкай, каварнай ільдзіне нясесься чорт ведама куды. Ты ў небясьпецы. Таму й марыш пра цёплую вопратку, спажыўную ежу, утульнае, надзейнае жытло. А яшчэ — пра шчасьлівы канец, сваю сьмеласьць і спрыт, чароўную дапамогу. Зразумела, гэта ўяўная саломінка, але як часта менавіта яна й ратуе ў безвыходных становішчах.

### 3.

І вось ты ўжо ўяўляеш, што каварная ільдзіна — Ноеў каўчэг, а імклівая плынь ракі — ратуючая сіла. Што наперадзе новае жыцьцё са сваёю новаю пэрспэктывай. Аднак пострамантызм — не калыханка. Бо трэба даплысьці, перамагчы, выжыць. Галоўны становячы яго досьвед — шлях мае пэрспэктыву (няхай сабе ён і безальтэрнатыўны, дадзены прымусам абставінаў). І ты пачынаеш дзеіць, актыўна спрыяеш зьдзяйсьненьню свайго пострамантычнага ўяўленьня.

Тут можа ўзьнікнуць аналёгія з пагоняй за міражнымі аазісамі. Здаецца, мэты ў гэтых выпадках аднолькавыя — дамагчыся пэўных уласных выгод. А калі разгледзець больш руплівa… У першым выпадку пострамантызм дапамагае пераадолець жыцьцёвую дадзенасьць, напоўніць сэнсам непазьбежныя дзеяньні, наканаванасьць. У другім выпадку — покліч аазісаў нашэптвае адчай або спакуса. Ні адчай, ні спакуса ня маюць ніякага дачыненьня да пострамантызму. Яны далёкія ад стваральнасьці, тым больш ад этыкі і маралі.

### 4.

Пострамантызм — Апазыцыянэр зь вялікай літары. Ён дакладна адчувае хлусьню, няшчырасьць і скнарнасьць. Ён зьявіўся як пратэст (пратэстант) супраць навалы чалавечай хцівасьці, генэруючы інстынктыўныя захады, якія мусяць ратаваць асобу ад дэструктыўнага ўзьдзеяньня сацыяльнага зла.

Зло гэтае дзеіць толькі на паверхні, тут ягоная прастора й ягоныя ахвяры, тут яно стварае сваю парафію. Адно глыбіня недаступная злу. У ёй адсутнічае сэнс існаваньня нэгатыўных чалавечых праяваў. Пострамантызм дапамагае імкнуцца ў глыбіню, у бясконцасьць, у космас. Ён ратуе чалавечыя душы й пры гэтым не пазбаўляе людзей жыцьцёвай актыўнасьці, стваральнага імкненьня. Духоўнае пачынае валадарыць. Ня розум, а менавіта духоўнае, якое сынтэзуе ў сабе як асабовыя чалавечыя, так і агульныя касьмічныя чыньнікі.

Пострамантызм у вадрозьненьне ад папярэдніх рамантызмаў не зьбіраецца нікога нікуды клікаць, а тым больш прапаноўваць пэўныя жыцьцёвыя рэцэпты, нікога ні ў чым не абвінавачвае. Ён не зьвяртаецца да масаў і нават да канкрэтнай асобы — хутчэй да самога сябе.

Я — сьвет, я — космас, — паўтарае пострамантызм.

## 5.

Усё мае свае карані, свае вытокі. Кожнае дзеяньне пакідае пасьля сябе вынік. Новая вада вызваліць раку ад лёду й гэтым наблізіць чарговае "аледзяненьне", якое, у сваю чаргу, паспрыяе набліжэньню новага (іншага) крыгаходу.

У Афрыцы ёсць рака Ніл. Яна ня ведае крыгаходаў. Няўжо нашыя ўмовы лякальныя? Ніл ніколі ня быў пад ледзяным панцырам, але ж і ягоны спакой пэрыядычна парушае новая вада. Іншая парадыгма?

Твой пострамантызм — Дзьвіна. Яна цячэ праз твой сьвет і нясе сваю ваду далей — у сусьвет.

Пострамантызм пэрманэнтны, і ня толькі ты вінен у ягоным зьяўленьні. Інспэраваць яго немагчыма.

Пострамантызм — гэта пэрспэктыва, безь пяцігодак і плянаў.

Пострамантызм — не ідэалізацыя герояў, іх інтарэсаў і пачуцьцяў. Пострамантызм гэтак жа далёкі ад рамантызму, як рэалізм — ад сацыялістычнага рэалізму,

як першабытны чалавек — ад сучаснага. Пры гэткай значнай эвалюцыі не застаецца практычна нічога агульнага.

Пострамантызм — гэта пачатак чагосьці зусім новага, а ягоны шлях — НОНКАНФАРМІЗМ.

*Студзень, 1994*

* * *

Ці захінаюць гмахі
Суседзяў сваіх — дрэвы,
Калі распаводзяць жахі
Бязьлітасныя залевы?

*1990*

## ЗМРОК

Пах стамлёнага мэталу,
Шэры воблак, белы дым —
Да бясконцасьці ўздым.

Працы пляміны-лякалы,
За чыгункай горад сьпіць, —
Да дзяньніцы не будзіць.

Гурт рахманых пацукоў
Скача мякка — без падкоў.
Пах стамлёнага мэталу —
На крыжах няма цьвікоў.

Сторублёвая купюра
Менш таемная ад паца.
Людзі сьпяць — ім сьніцца праца,
Ды скарыначка на тацы —
Не да “сюра”.

Шэры воблак, белы дым —
Я ня буду маладым.
Горад ведае, што кажа,
Бо праціўнік сабатажу —
Сьцяг “недремлюший” над ім.

Усе газэты нахлусілі,
А чыгункі разнасілі,
Што Радзіму не любіць…
Проста… проста горад сьпіць.

Я ня ведаю ў твар
Пацука майго ўтрыманьня,
Нечым бавіцца да раньня,
Дзесь паскудзіць тратуар.

За мой кошт жыве, зладзюга,
Як за добрай, ветлай цёткай.
У маім двары калюга —
Я хаваю ў ёй улёткі.

Пах стамлёнага мэталу —
Гарадзкога поту пах.
Зноў загадана вакзалу:
Начаваць па пашпартах.

Ліхтароў сьляпыя вочы,
Шэры воблак, белы дым —
Я ня буду маладым.
Чулі, браце, — не прароча.

Толькі ветах, толькі ветах,
Пазнаю яго па твары,
Ходзіць над усім у кедах
І склікае да пажару.

Ды яго ніхто ня чуе:
За чыгункай горад сьпіць, —
Да дзяньніцы не будзіць.

Мякка скачуць пацукі —
Шум рабіць ім не з рукі.
Маюць блазнавую рацыю:
Ўсе з падковамі — на працу.

А на дне маёй калюгі
Ціха, брудна, ды ня тленна.
Першы промень ад пажару
Ёй памножыцца імгненна.

Ну а сёньня — ноч і горад,
Пацы мякка, мякка скачуць.
Пад падушкай — кволы сорам,
На падушцы — жах, няйначай.

Паспрабуй ад ложка збочыць!
Людзі дрыхнуць без аддышкі,
Іх заплюшчаныя вочы —
Пройгрышы ігры на лыжках.

За чыгункай горад сьпіць, —
Да дзяньніцы не будзіць.

Завітаюць раптам госьці:
Не чутно палёнай поўсьці.

*1993*

## НА ДАХАХ

На дахах жыцьцё для пустэльнікаў
І — традыцыйна — катоў.
Як мала самоты ўдзельнікаў,
А сьведамых — пагатоў!

На дахах спачыну ня ведаюць
Вятрыска, залева і сьнег.
Затое ня трызьняць камбедамі,
Затое маўчыць нампацех.

На даху спакоем нязмушаным
Самота душу ахіне…
Узьнімесься — неба парушана,
І вусьцішна, як на вайне.

*1991*

* * *

Ні штандараў нідзе, ні харугваў,
Не пазнаць: дзе каханьне, дзе жарт.
Аднастайная, доўгая пуга
Выпрабоўвая сьпіны на гарт.

*1990*

## МАРШРУТ № 2

Аўтобус — на ланцугу маршрута.
На пляцы — елка экспанатам.
Вяртаюцца студэнткі з інстытута
І пацяшаюць жартамі мулатаў.

Аўтобуса кіроўца бачыць елку
Разы чатыры за працоўную гадзіну.
Крычыць дзятва замест “вавёрка” — “белка”:
Разгойдвае свавольніца галіну.

Аўтобус не сьпяшаецца нікуды.
Люд на прыпынку лае аўтабазу.
Харус жаночы да вітрын прыкуты, —
А дабрабыт жахаецца дурнога “зглазу”.

Аўтобусу наканавана лёсам
Трываць пляўкі, абразы, штурханіну.
Кіроўцу мрояцца бананы і какосы,
А рукі не губляюць каляіну.

*1991*

## САЦАРТ

За мной Сацарт па сьледзе ходзіць,
Вярбоўшчык дзёрзкага натхненьня,
Якое марыць аб пашане, аб славе
зь літары вялікай.
Вярбоўшчык, як лісьлівы мніх, —
Ён абяцае, абяцае, ён ведае, куды цаляе,
Ён ас, ён майстар спраў сваіх.

Ў палоне слоіка ягоным
Жаданьні-мятлікі карысьці
Згубілі свой абсяг самохаць,
Яны шчыруюць, б’юць крыламі,
Іх справа — як уяўны стогн.

Натхненьне гвалтам абудзілі
Ў палоне слоіка ягоным,
Дзе ёсьць адзінае жаданьне —
Жыць.
І пішуцца радкі, як хвалі,
Што вецер з акіянам спарадзілі, —
На кожным моры хвалі мусяць быць.

Сацарт, і ты мяне прымусіў
Сьпяваць у хоры мятлікаў-ахвяраў.
І я сьпяваў — як служка тваіх дзей.
Падмануты тваёю блешняй-словам,
Два месяцы і дзень з паловай
Я выштукоўваў верш, які спаліў пазьней.

Я сёння вольны, я з табой на роўных,
Цяпер ты толькі зьява — хмара ці вагонь.
У мітусьлівым навакольным руху броўнскім
Пэгас мой — птушка, а ня конь.

*1993*

## СПРОБА ІДЭНТЫФІКАЦЫІ

Хто ты, дзіўнае стварэньне,
зноў ідзеш за мной па сьледзе,
у даведніку нямашака
тлумачэньня тваёй сутнасьці.
Ты жывеш сваёй адсутнасьцю,
п’еш адсутную гарбату,
еш умоўныя варэнікі,
сьпіш умоўныя гадзіны,
як скаціна,
што ня значыцца ў калгасе,
і нічыйная уласнасьць, —
проста ходзіць па папасе,
і яшчэ не адбылася.
Зразумець цябе імкнуся,
вывучаю, як француза,
як нянаскае здарэньне
(бо у нас ты не сустрэнеш
без гаспадара скаціны).
Кпінай
з’імітую правакацыю,
спробу ідэнтыфікацыі.

*1993*

## МОЙ ПАКОЙ

У пакоі, як на складзе,
Ёсьць адметнае бязладзьдзе.
Паспрабуй на гэткай плошчы
Ўладкаваць развагаў мошчы.
У вадным куце — пра грошы,
Там скразьняк заўжды харошы.
У другім — пра лёс свабоды,
Там абрынутыя стоды.
Трэці кут займае посуд,
Там развагі пра п’янтосаў.
А ў чацьвертым — цыгарэты,
Не палю, бо шкодна гэта.

*1993*

## У ГАСЬЦЁХ

На адным узроўні — слава,
На другім узроўні — кава.
Мы спрачаемся з Мудровым,
Дзе о’кей, а дзе халява.
Вечар слухае размовы,
Пустата — сынонім сьвету,
Робяць кубачкі выснову:
Лепш пра цукар, а ня “гэта”.
На лапаткі ўсіх расклалі,
Абмалолі косткі файна,
Прусакі аж паўцякалі,
Гул стаіць, як ад камбайна.
Адпачнулі тры хвіліны,
Абадзінскага згадалі,
Памаўчалі, пасьпявалі,
Пасядзелі, пастаялі,
Гаспадыні далі “бусю”,
Гагатнулі, быццам гусі,
І праз кволую хвіліну
Мы пакінулі хаціну.

*1993*

## ЗАЛАТАЯ РУНЬ

Вакол твайго імя, Пярун,
Зьбіраюцца, як восы, хмары.
Пякучых бліскавак нэктары
Чакае залатая рунь.

І нават кволай насьцярогі
Няма у зьмены маладой.
Яна за новаю гарой,
Яна шукае іншае дарогі.

Рунь не баіцца гострага кап’я,
Моц Перуна яе містычна экзальтуе.
Няхай даглядчык лямантуе,
Што небясьпечная з вагнём гульня.

Рунь падсьвядома адчувае, —
Патрэбны, як паветра, рызыкоўны чын,
Інакш ня будзе ураджаю,
Інакш навошта далячынь.

*1994*

* * *

Разьбіць вакно і разглядзець сусьвет,
Які ад грошай не залежыць,
Які ня мае пэўных межаў,
Які адразу немаўля і дзед.

Хаос здаецца ў сьвеце тым:
Статут ў мін’юсьце не глядзелі,
І не зацьверджвалі ў аддзеле,
І вокладкі няма зь цісьненьнем залатым.

Сусьвет, як вецер, як аблокаў рух,
Я не стамляюся за ім імкнуцца,
І часу не хапае азірнуцца,
І я ня ведаю: ці ёсьць пастух.

*1994*

## НАПЯРЭДАДНІ САМАСТОЙНАЙ ВАНДРОЎКІ

Навошта срэбрам спакушаеш,
Падманным месячным сяйвом?
Пагрызена мараль мышамі,
Закон адолены рабом.

Рабом, які супроць культуры,
Які адмовіў кампраміс.
Дзе каліва знайсьці мікстуры
Ад немачы тваёй, Уліс?

А імітатараў хапае,
Што генэралаў, што салдат,
Вакол віна і каравая,
Вакол улады і пасад.

*1994*

## СУСЬВЕТНЫ ПАДЗЕЛ

Ёсьць прастора паху кветак,
Ёсьць — сьвятла настольнай лямпы.
А суседа ад суседа
Аддзяляе сьвет уласны.
Паміж коршакам і качкай
Неба дзеліцца на часткі.
Ёсьць надзея для сабачкі,
Ёсьць надзея больш сучасная.
А мастацкія дыктатары,
Што паэзіі адданыя,
Быццам чуйныя лякатары,
Быццам ў моры капітаны,
Заваёўнічна-калюмбава
У пошуку заўжды нястомныя,
Расьсьмяшаць дасьціпна сумнага,
Знойдуць хату для бяздомнага.
Хтосьці кліча іх масонамі,
Хтосьці горда — карабэламі
З каралеўскімі каронамі
І сусьветнымі падзеламі.

*1994*

## АДПАЧЫНАК ЗА ГАДЗІНУ ДА ЗЬМЯРКАНЬНЯ

На валунах адпачываюць кірлі,
Яны ляталі ў сьвет далёкі,
Стаміліся па францыях галёкаць,
Стаяць на валунах, як стодкі.
Крыху далей заўважны сьвірны.
Увечары дымок салодкі
(У вёсцы ўжо забылі смаку “водкі”)
Уздымаецца ад сьвірнаў мірны.
Сялянаў не цікавяць кірлі —
Ну ёсць, дык ёсьць — карысці зь іх ніякай,
Іх не чапаюць — і за тое дзякуй.
Здаецца, навакол ніколі не было салдата.
Ужо сабрана сена ў сьцірты.
Жыцьцё і праца — тут нібы блізьняты,
Прыемна, ціхамірна пахне мята…
Відарыс гэты бельлю напаўсьцёрты,
Ён вокам невыразна ўзяты.

*1994*

## ТАБЕ

Я ахвяра твайго гіпнатычнага сну,
Твае жахі цікуюць за мной.
Дыягенам пабачыў прыблуду-вайну,
Крылы мёртва вісяць за сьпіной.

Я раблю толькі тое, што мушу рабіць,
Раўнавага — як прывід вясны.
Гіпнатычна казаць, гіпнатычна любіць,
Адчуваць чарназём баразны.

Два жаданьні — адно мне прымусам дано,
Не пазбыцца яго аніяк.
У кілішках статычна чакае віно —
Ці адбудзецца змоўніцкі знак.

Я ахвяра — і споведзь мая, як пчала,
Абавязак і праца — штодзень.
Гіпнатычная хваля мяне ўзьняла,
Як бярно, як мэталь, як камень.

*1994*

## НА ВЯЛЕСАВЫМ ЖЭГЛІШЧЫ

Вялес, нібы глушэц, сьпявае гімн
Сваім ўладаньням і сваім падданым,
Трубіць у рог, рагоча апантана,
На пір зьбірае ўсіх, на жэглішча сваё.

Сярод аблокаў адгукаецца Ярыла,
Ляціць на кліч, як ластаўка дамоў,
Хутчэй на сьвята — дзе каханьне і віно,
Две веснавая валадарыць сіла.

Вялес, ня маючы старых ілюзій,
Мне даспадобы твой бясхітрасны хаўрус,
Ды толькі ведаю — не адгукнуўся Зюзя,
І больш таго — зьлякаецца Пярун.

*1994*

## ТВАЯ ПАДКОВА

*Юрыю Гуменюку*

Не выпадкова, не выпадкова
Хтосьці згубіў, а ты знайшоў падкову.

Вяртацца да вядомага фіналу —
Твайго быцьця найноўшага аналяг.

І хітрыкі Тантала — марнатраўства.
Твая нэйтральнасьць — бюргерская Аўстрыя.

Не асуджаю хлебасольства сьметніка,
У кожнага свае жыцьцёвыя адметнасьці.

Твая падкова некалі спатрэбіцца,
І, спадзяюся, не накліча Срэбніцы.

Яна губляецца, яна бадзяецца,
Але ўсё роўна да цябе вяртаецца.

*1994*

## РАЗЬВІТАНЬНЕ З ТАНТАЛАМ

Дзе вуліцы, дзе сьнег даюць па картках,
Ніводнай стракаазы, ні мятліка, ні пчолкі,
Адзіны слуп, зь яго у бездань скокне месяц, —
Ўладаньне змрочнага Аіда.
Прыступак не відно — ідзеш гарызантальна,
Ў паветры жахі сноў дзіцячых
Лятуць усьлед — паветраныя шарыкі на нітцы.
Хачу сказаць: — Бывай, Тантал!

Аід не гаспадар — ён Пан і Бог,
Ён сустракае кожнага абдымкам,
Ягоная гасьціннасьць — хітрыкі пракуды,
Дзіця — якому безьліч год.
І ты, ахвяра ўласнага нахабства,
Вар'ятам аглядаеш сьвет фантомаў,
Зьняверлівы ва ўсім, ва ўсіх, —
Бывай, Тантал!

Зярнятка кволае — адзіны апанэнт Аіда,
Для навуковых спрэчак вільгаці хапае.
Дарэмна шкадаваць цябе, Тантал,
Ты сам сабе — ўзнагарода і вырок,
Твой лёс, як лябірынты Мінатаўра,
Ты заблукаў, ты схлусіў сам сабе.
Вада зьнікае — рэха вадаспадаў цьвеліць:
Бывай, Тантал!

Бывай, ні шкадаваньня, ні трымценьня,
Учынкі засталіся за плячыма,
Цяпер маё жыцьцё крынічкаю струменіць,
Кудысь бяжыць, сьпяшаецца ўпарта,
Ніхто ня ведае куды.
Ты назіраеш з хіжасьцю вар’ята,
Ня верыш іншаму зыходу,
(Падман Аіда?), бо вакол фантомы,
І толькі голас мой сапраўдны:
Бывай, Тантал!

*1994*

* * *

На душы супакой, восень зьвіла кубло,
Дождж патрэбны для стомленых воч.
І адразу ўсплывае, як месяц у ноч,
Варажнеча дурманлівых слоў.

Кроплі-гукі дажджу працінаюць мяне,
Як паверхню лагоднай ракі.
На ўзьбярэжжы алешыну вецер ня гне —
Разыйшоўся ў чатыры бакі.

На душы супакой, адчуваю сябе,
Нібы ў чоўне на днішчы ляжу.
Твой, Ясон, карабель,
                карабель… карабель…
Мне прымроіўся ў рысах дажджу.

*1994*

## НОНКАНФАРМІЗМ

Аб чым спрачацца мне з табой?
Мы дзеці living рознае сыстэмы,
Цябе хвалююць, дружа, цэны,
А я лічу іх рост лухтой.

Што мусіць быць у сьвеце гэтым —
Адбудзецца, як не суроч,
Дзень сыйдзе, запануе ноч, —
Наклеюць новыя партрэты.

І толькі твой уласны сьвет
Залежыць ад твайго жаданьня,
Ніхто, ні ў якім Татарстане,
Ня зьменіць рух яго плянэт.

І лепшай зброі для людзей,
Чым моц свайго нонканфармізму,
Ня ведае сусьвет вялізны —
Ні ліхадзей, ні дабрадзей.

Бо Д'ябал можа спакушаць
На ўзроўні цэнаў і пасадаў,
Улады, страўніка, акладаў —
І толькі гэтак кіраваць.

Парадак усталюе тут,
Бадай што, толькі мужнасьць духу.
Змагайся з Д'яблам, космас слухай,
Вазьмі СВАБОДУ за статут.

*1994*

## УСКРАІНА

За лясамі, ўзгорамі,
За сівымі зорамі
Ягадай нясьпелаю
Сьпіць краіна белая.

З поўняй разьмінулася,
Хмарай загарнулася,
Голас пахаваўшая,
Волю не пазнаўшая.

А была шляхетнаю,
Гонарам адметная,
Моцная і вольная,
Да навукі здольная.
Нашай ускраіна была!

Аблокі гоне вецер-гун,
Забыўся ён, што ёсьць Пярун,
Забыўся, што чакае нас
Сурмы працяглы сьпеўны час.

Мой сын маўчыць,
Маўчу і я:
Навокал скрозь — калёнія.
Калее ў студзеньскай вадзе
Пярсьцёнак згубленых надзей.

*1991*

## ЗЛАЧЫННАЯ КРОПКА

Паставілі гіцалі кропку
Пасьля незавершаных спраў,
Падсунулі шчасьця падробку —
А Бог нас усіх пакараў.

І дзён засталося нямнога —
Ўжо золак гадуе агні.
А гіцалі просяць у Бога
Яшчэ тры апошніх рублі.

*1996*

* * *

Што сьніцца хлопчыку майму?
Ратунак наш не за гарамі,
Бо ў гэту цяжкую зіму
Сын будзе побач з намі.

*08.10.88*

## ТЭАЛЯГІЧНАЕ ПЫТАНЬНЕ

Дзень і ноч стаіць салют —
Іскры драпаюць нябёсы.
Што сьвяткуюць людзі тут?
Скачуць, быццам папуасы.

Перамога на дварэ?
Ці віно у кожным кране?
Ксёндз, паддзячы і кюрэ
Думаюць над тым пытаньнем.

*1996*

## СУПРАЦІЎ

Ён прынёс у сьвет сваю загану —
Жвір у ботах, а ў душы сухмень.
На дарозе, з пыхаю тырана,
Прыхадзень сустрэў сівы камень.

Падышоў ён да раптоўнай перашкоды,
Абтрасаць пачаў свой левы бот:
Пазасыпваў гарады, народы —
Жвір наладзіў спраўны карагод.

На камень жа моцы не хапіла, —
Прыцярушыў ледзь пукатыя бакі.
Мусіць, думаў — тут яму магіла,
Толькі памыліўся, дарагі.

Правы бот ён скінуў без развагі,
Трос яго з усіх вар'яцкіх сіл.
Быццам джын з чароўнае біклагі,
Сьмерч пякучы хвоіны валіў.

А камень ні кроку, ні паўкроку,
Ні назад, ні ўперад, ні ў бакі, —
Нібы сонца між аблок высока,
Нібы бераг стромкае ракі.

*1996*

## НАСЛАНЬНЁ АДСТУПНІКА

На мой гаўбец прыляціць кажан.
Ноч затоіць бязгучнага лёту сьляды.
Крылам зь кіпцямі, як лязом нажа,
Распачне ён скрэсьці пагоні матыў.

Перакінецца потым ў пагоню саму,
У шалёным галопе зьнішча плітку гаўбца
І уздыме да зорак віхуру-зіму.
Перакінецца потым ў сьвятога айца,

Неміргаючы будзе за мной назіраць,
Я пачую — у зрэб'і ягоным вятрыска гудзе,
Я убачу — ён хоча мне нешта сказаць,
Толькі словы яго, што кругі па вадзе.

Пэўна, здрады свае ўжо ня возьмеш назад,
Пэўна, літасьці мне ад яго не чакаць.
Я ня буду вар'яту гаўбец адчыняць.
Пайшоў прэч, сатана! Зьнікні, гад!

*1996*

* * *

Мяне цкаваў сабачы страх,
а я ня бег, а я знарок
звычайны запавольваў крок.
Нябёсы — мой адзіны дах.
Нашто хавацца па кутах?
Час прамільгне, і знойдзе схоў
сумленьне вечнае, і зноў
пагоніць страх цябе з выцьцём —
у забыцьцё.

*1988*

* * *

А птушкі некуды далей ляцяць,
Як быццам не існуе крэўнае радзімы,
Як быццам не існуе нашае мясьціны,
А птушкі некуды далей ляцяць.

Нібы сваё адбалявалі дзьміны…
Ды цяжка вочы да нябёс узьняць, —
Там птушкі некуды далей ляцяць,
Як быццам не існуе крэўнае радзімы.

*1988*

***

Калі сустракае улада гасьцей,
Яна ўспамінае музыкаў, паэтаў,
Каб лашчыла вуха напеўнасьць санэтаў,
Калі сустракае улада гасьцей.

Маўляў, падзівіцеся, госьці, й на гэта —
Як талент шануем тутэйшых людзей.
Калі сустракае улада гасьцей,
Яна ўспамінае музыкаў, паэтаў.

*1988*

## ПАТРЭБА ВЯРТАНЬНЯ

чарада слоў
драбніцы стракатых падзей
мэтамарфозы быцьця
навонкі
і толькі ў сярэдзіне
разважлівасьць валуна
і акамянелыя адбіткі
хваляў
таму ў сярэдзіне
тваё жытло
сьпічастыя вежы
каляровыя аканіцы
заможныя дзябёлыя
брамы
выпадкова не патрапіш
на вулкі гэтага места
яго няма — пакуль ты
ня ўявіш яго сам
будзеш кружляць
на зорным небе
будзеш клыгаць
як прывід-вандроўнік
пакуль не адчуеш
патрэбы вяртаньня

як алоўкі
што пакідаюць сьлед
зьнікаюць людзі
паломніцтва ў нікуды
крэсьленьне па крэсьленьні

*1997*

## ЗЬМЕНЫ

зьдзіўляюся — зьмены
як марскія хвалі
бясконца выпраўляюць свой малюнак
бурштынавыя перакочваюцца каменьчыкі
а чарупіны — рэха акіяна
зьдзіўляюся — штодзень я іншы
сталеюць думкі
чаргуюцца жаданьні
пры сустрэчы я спытаю —
хто гэта?
сын прыкладае чарупіну
да вуха — уважліва слухае
ты павязеш мяне летась на мора?
я ніколі ня бачыў мора
нават успаміны аб мінулым
мяняюцца як рэчышчы
родных рачулак
няўжо нехта мае ўладу
над маімі ўспамінамі?!
зьдзіўляюся — гляджу на фатаздымкі
пажоўклыя лісты кнігі
зьдзіўляюся — жыву даўнейшай марай
якая зьдзейсьнілася

на вежы б’е гадзіньнік —
вітае чарговую зьмену
найменьня маёй мары

*1997*

## ВАНДРОЎКА

сын кліча мяне ў вандроўку
яму карціць пабачыць тое
што ніколі ня бачыў
пачуць —
што ніколі ня чуў
паспытаць —
што ніколі не спытаў
ён яшчэ верыць у свае здольнасьці —
усё пабачыць усё пачуць усё паспытаць
і я быў некалі такім
што параіць сыну?
сказаць што гэта марны занятак —
ці ня згубіць хлопец цікавасьць
да жыцьця?
патлумачыць — што нельга ахапіць
неахопнае —
ці дасьць веры?
параіць — засяродзіцца на чымсьці
адным —
ці не памыліцца ў галоўным?
нічога ня буду казаць
мы пойдзем разам

і я ўбачу тое
што ніколі ня бачыў
пачую тое
што ніколі ня чуў
паспытаю тое
што ніколі не спытаў

*1997*

## ULTIMA THULE*

Верш з такой назвай я прачытаў
у эстонскага паэта Матса Траата**
ён напісаў яго ў 70-я гады
калі Эстонія таемна марыла
пра ўласны дом
калі захрасла вятроў кола
ў спадчынных ветраках
калі ўпарта змагалася з хвалямі
старая адзінокая сасна
на Балтыйскім узьбярэжжы
Матс тады быў зусім малады
і верыў толькі ў моц свайго слова
"няхай зноў
вечныя гострыя вілы
выграбуць імёны
плямёнаў
з вадзяной магілы" —
такія ён казаў пацеры
і зьвяртаўся да паганскага бога
эстонцаў Тара

I я загарэўся напісаць верш
"Ultima Thule"

Я сьніў яго але раніцай ня мог
узнавіць ніводнага радка
я чуў яго ад нарачанскіх хваляў
але ня здолеў перакласьці на родную мову
я бачыў словы верша
выкладзеныя літарамі-аблокамі
над восеньскай пожняй
але ня мог ахапіць позіркам усе літары
каб прачытаць хаця б радок

Па дарозе якая вяла да крыніцы
мы йшлі па ваду —
я васьмігадовы сын Антон
чатырохгадовы пляменьнік Андрэй
і двухмесячны кокер-спаніэль Боб
які ўвесь час блытаўся пад нагамі —
крыніца неўтаймоўнага аптымізму

Быў вечар наперадзе заходзіла сонца
і я адчуваў што вось мы йдзём па
крынічную ваду заходзіць сонца
дзеці бесклапотна балаболяць пра
свае дзіцячыя зацікаўленьні —
гэта той выпадак
калі я магу напісаць верш “Ultima Thule”
толькі сёньня толькі зараз
або ніколі
я паклікаў на дапамогу Вялеса
і мулкімі вуснамі пачаў бязгучна нашэптваць
“Прыйдзі Ultima Thule як срэбная хмара
як вызваленьне ад праклёну сярод ночы
калі не чакаеш ня просіш ня кленчыш —
сьціплая ўзнагарода за дзённую працу
вызваленьне ад грахоў якіх не рабіў
якія не даюць табе ўзьняць галавы
сказаць “Дабрыдзень” і паклікаць гасьцей
прыйдзі як сон пра які расказаў мне бацька
а бацька пачуў ад дзеда
як аса якая прыляцела на твой салодкі стол
і ты радуесься што нехта яшчэ апроч цябе
адчуе смак тваёй хвіліннай насалоды
і ўпершыню ты пазнаеш неба прывітаесься
з сонцам дакранесься да дрэва

і гэта адбудзецца калі прачнесься
а мінулае — як сон як насланьнё
і будзе тое поле і ня тое
тыя ж аблокі — і ня тыя
тыя ж краскі — і ня тыя
ты ўпадзеш у пярыну падбелу
мацярдушкі скрыпеню жывакосту
дзівасілу сьвятаяньніку браткоў
адчуеш пах красак
і ўбачыш між аблокаў
ускраіну паўночнай зямлі —
Эстонію”

Матс Траат прачытае мой верш
калі Ultima Thule прыйдзе й абвесьціць —
Цяпер тут ускраіна

*1997*

---

* Ultima Thule (лац.) — край сьвету, ускрайні рубеж.
** Матс Траат — эстонскі пісьменьнік (нар. 1936).

## ПАРЫСКІЯ ВЕРАБ'І

На каменным беразе Сены
кармлю з далоні тутэйшых вераб'ёў

папрашайкі падобныя да полацкіх
толькі яшчэ больш нахабныя

дзясяткі фотаапаратаў японскіх турыстаў
здымаюць нас як супэрзорак

парыскія нахабнікі
лезуць у самую далонь

*1997*

## ТВОЙ ПОЗІРК

Расставіўшы ногі як вежа Эйфэля
стаю над Парыжам і назіраю
за гульнёй вечаровых агнёў
Стомленыя аўто шукаюць
месца прыпаркавацца
сэкс-шопы навязьліва запрашаюць
за распусныя занавесы
чыгунныя масты па чарзе адпускаюць
рукі ад берагоў і сплываюць
па Сене разам з бляшанкамі
ад кока-колы і апошнімі жоўтымі
кляновымі лістамі
Калі вы не пасьпелі перабрацца
на патрэбны бераг — не хвалюйцеся:
па сьвятлу пераходзьце
пераяжджайце — па сьвятлу
што ліецца з вакна на вуліцы Gravilliers

Ва ўтульнай кавярні
якую ведаеш зь дзяцінства
схаваесься ад вулічнай ілюмінацыі
і праз шчыліну лёгкіх фіранак
будзеш назіраць за мной
як за мімам
які нерухомна гадзінамі стаіць
на пляцы Palais Royal —
ці міргну ці варухнуся
гэткім чынам падаўшы знак

я стаю над Парыжам
і адчуваю твой позірк

*1997*

# ГРЫФОН

*паэма*

## 1

Зь мясьціны А ў мясьціну Б
ляцеў, як баба на мятле,
як рэактыўны самалёт,
як трохгаловы цмок-пілёт,

ляцеў — кугікаў — совы? совы! —
гайдаў нябёсаў сіні човен
і рагатаў, і біў у звон,
як быццам Усявышні ён,

і крыламі падрапаў сонца,
ляцеў над Полацкам бясконца,
як транспарант “Memento mori”,
як байка блазна-фантазёра.

Ці ява гэта? Можа, сон?
У небе — м е д з я н ы  Г р ы ф о н.
Ўзмакрэў, нібыта на касьбе,
дзень-ноч ляціць ў мясьціну Б,

і Полацак трымае дзіва,
нібы жартуючы, гульліва;
у пастку зьвер патрапіў хіжы,
ляціць — і ні на крок ад крыжа,

што над Сафіяй сочыць дзеі,
крыламі б’е — не разумее,
што ён палонны, а ня госьць, —
мне Полацак яго аддасьць.

## 2

Ні “бэ”, ні “мэ” па-беларуску,
глядзіць варожа — сыч-сычом.
Я пасадзіў яго ў кутузку
І дзьверы зачыніў ключом.

Размова будзе заўтра ўраньні,
я падрыхтуюся як сьлед,
зь мінулага паклічу здані,
параду дасьць старэйшы дзед.

Я прагартаю сотні кнігаў,
Вялеса выклічу з начы,
інкогніта ён прыйдзе мніхам
і згорне ў кропку далячынь.

І я пабачу сьвет далёкі,
як мапу на сваім стале,
усе афіны і бангкокі
адкрыюць таямніцы мне.

## 3

Аблокі — літары нябёсаў —
мы развучыліся чытаць,
І тое, што ў нас пад носам,
нам не чуваць і не відаць.

Мы спажываем тлумачэньні
чужынцаў, д’ябла, махляроў.
Сапраўднага гуляюць цені
зрэдзьчас ля спадчынных двароў.

Таму пакралі скарбы нашы —
імёны, славу, абразы;
вякоў злачынная прапажа
нас робіць пруцікам лазы.

А ў небе лётаюць грыфоны,
і кожны мае свой загад.
Падзелена зямля на зоны,
наш Полацак — ня наш пасад.

— Ты пераможаш, не вагайся! —
уночы мне казаў Вялес. —
Але таго асьцерагайся,
хто пераблытаў сэнс і зьмест.

**4**

Куды ляцеў Грыфон мядзяны?
Каму на крылах нёс загад?
Таемнай злучнасьці падданы,
што ў параўнаньні зь ім масад,

казюрка на сухой сьцяблінцы.
Ён Тэрмінатар 3 — ня менш.
Такі у полацкай глыбінцы
такое ўчыніць — не засьнеш.

**5**

Нараньні сябар завітаў,
ён выгляд меў стамлёны дужа,
далонь халодную падаў,
нябогу трэсла, як у сьцюжу.

Ён пляшку “Полацкае” меў
для пераможнага “намазу” —
ня кожны раз трапляе леў,
а тут яшчэ арол адразу.

Пілі гарэлку, як ваду, —
ні смаку, ні цяпла жарынкі,
я засьпяшаўся — ўжо пайду,
а сябар — пасядзім хвілінку.

Хавае вочы і маўчыць,
затым гаворыць ціха: — Годзе!
Нам ад наступстваў не ўцячы.
І хутка ад мяне сыходзіць.

Пра што ён? Во дае дзівак!
Якой шыпшынай укалоўся?
Няўжо спалохаўся ён так?
Ці ноччу нешта адбылося?

**6**

У родных соснах заблукаць
зусім ня цяжка, як здаецца.
Я Полацак ня мог пазнаць,
вачмі ня мог, і нават сэрцам.

За ноч зьмянілася усё.
Ці, можа, я зьмяніўся гэтак?
Навокал сьмецьце і рызьзё
І пах грамадзкага клязэту.

О, Полацак, куды ты зьнік?
Якія гуны тут прайшліся?

Хто патушыў Зьніча агні,
панёс дзядоў, як долам лісьце?

Сьпіць крыж Сафіі над Дзьвіной,
нямком маўчыць Барысаў камень…
Бяспамяцтва ідзе вайной —
нікога ля разьбітай брамы.

## 7

Яшчэ здалёк убачыў я,
што дзьверы насьцеж у кутузцы.
Страх абудзіўся заскарузлы,
Так воўчая аточвае гайня.

— Параза! — вымавіў, як стогн. —
Хто адчыніў уночы дзьверы?
Якія духі, людзі, зьверы?
Хто выпусьціў цябе, Грыфон?

“Нам ад наступстваў не ўцячы”.
Ўзгадаў я ранішнія словы
і сябра постаць, вочы, бровы,
і папярэджаньне ўначы.

У дзьверы біў, бы страціў клёк,
крычаў у роспачным бясьсільлі,
і толькі ў Кіеўскай Сафіі
Забіўся сьвечкі матылёк.

## 8

Я кепскім вучнем быў, Вялес,
ня спраўдзіў я твае надзеі.
Чужое рэха будзіць лес,
ад гукаў сэрца ледзянее,

і жэглішча зьнікае сьлед,
вятрыска воблака разьвее.
Няма Яго — і Ён паўсюль:
шкрабецца мышшу пад ялінай,

у дрогкім поступе казуль,
у дотыку біблейскай гліны.
Я ведаю: Ён побач, тут,
чакае новае радзіны.

Глядзіць таемна птах-груган,
матыль аб шкло упарта б’ецца,
зьмяя ахоўвае курган,
буслы ляцяць дамоў праз Грэцыю —

у кожнай зьявы пэўны знак,
любві маленькая фартэцыя.

## 9

Грыфон па небе не ляціць,
смуга наўкол і дзьме вятрыска.
Ні Грунвальд, ні Барадзіно,
Каршун ні высака, ні нізка.

Ні Ватэрлё, ні Сталінград,
ні перамога, ні параза.
Ёсьць выканаць каму загад,
няма каму змагацца разам.

Няма сьвятла ў тваім вакне,
Смуга наўкол і дзьме вятрыска.
Так не бывае на вайне —
ні ворага, ні абеліска.

Ды зорка блісьне сярод хмар,
Вялеса голас мне падасца.
Я запаліў кажан-ліхтар…
Ніколі Полацак ня здасца.

*1995*

***

зьдзівіцца нечаканай праўдзе

як усё проста
калі геніяльна

толькі аблушчанае ядро
зь якога праклюнецца працяг

ні лішняга слова
ні калючага асьця

толькі адзнака ў пашпарце
памежніка-часу

*2006*

* * *

у новым стагодзьдзі
плянуеш пачаць новае жыцьцё
ды раптам высьвятляецца
пражытых гадоў
немагчыма пазбыцца

нібы дакучлівая мэлёдыя
яны перахоўваюцца ў таемных глыбінях
тваіх засьмечаных глуздоў
і ты мусіш зьмірыцца
з прыкрай недарэчнасьцю
што глузды — не дыван
які можна вытрасьці
і ня лямпачка
якую лёгка замяніць

таму сьвяці
сваім звыклым напалам
пакуль не перагарэў
або не адключылі электрычнасьць

*2001*

* * *

*Леаніду Галубовічу*

даўно ўжо ніхто не вызначае
працавітасьць па мазалях на руках
а ты ўсё яшчэ стыдуесься
сваіх мяккіх далоняў

даўно ўжо зерне кінутае ў ворыва
толькі ня нам зьбіраць ураджай
даўно ўжо ўсё было і тое
што было — будзе
толькі ня гэты дзень
толькі ня гэты

*2001*

* * *

Сярод чаратоў
схавалася маленькае
гнязьдзечка
з адным яечкам
з іголкаю зачараванай у
сярэдзіне

так так
з той самай славутай іголкай
у якой жыцьцё цмока
захоўваецца

Ды што тут паробіш:

і балота шкада асушваць
і гняздо дратаваць
і яечка біць

*2001*

## ТРОХРАДКОЎІ

* * *

Сплю ля мора
як выкінутая хвалямі
ахвяра караблекрушэньня

* * *

Міма сьпяшаецца цягнік —
па рэйках
па раскладзе

* * *

Сябры вяртаюцца
як поры году
як успаміны

* * *

Кажан да скуры
працёр свае крылы
націраючы поўню

* * *

Трохгадовы сын
пабег насустрач бацькам
як шар у кегельбане

* * *

У Вільні
ля Вострай Брамы
ляжыць мая манэтка

* * *

Для глуханямой поўні
пальцам па шыбіне
выводжу словы

* * *

Мой кактус круглыя суткі
глядзіць у вакно —
чакае мяне

* * *

Ня маючы голасу
лаўлю губамі
ноты разьвітаньня

* * *

Вось і верасень
сіні сушыць
свае вёслы

* * *

Ці згадзіліся б чараты
каб паміж імі
вырас дуб?

* * *

усе стамляюцца
але адпачыць
ня ўсім выпадае

*2001*

## ПРОСТА Ў СЯРЭДЗІНУ

*Генадзю Айгі*

ён адразу адчуў
што я не дзіця расейскіх прастораў
што пачуваю сябе ў гэтым
хаатычным (на маё ўяўленьне)
і няўтульным горадзе на Волзе
ніякавата й журботна

гэтак мы пазнаёміліся

згадваю голас паставу вочы
ч а р а ў н і к
які жыве ў Расеі
бесьсмяротны Дэрсу Ўзала
(каб жыць у Расеі трэба
добрым быць паляўнічым і сьледапытам)
на іртахісьці паміж
лукойлаў газпрамаў ды мэнатэпаў
адчуваць пах драпежніка
і пасьпяхова абмінаць усе пасткі і самастрэлы

закон — не хвалюйся і не бяры да галавы — тайга

просты голас проста ў сярэдзіну
у цэнтар у глыбіню як каменьчык у студню
і кругі і ціхі водгук
гэтак проста як сьцізорыкам
выразаць сьвістульку каб бяз
дай прычыны гукаць аблокі

калі ты чараўнік ты тут
побач з шэраю хмараю і гарэзьліваю

вясёлкаю што не зьвяртае
увагу на йтэру й юкас
і яшчэ на безьліч умоўнасьцяў
вось і подых мой зусім рэальны
і сьлед птушкі ў небе
і пацалунак кветкі
(адбіткі губ засталіся на маёй шчацэ)

і не e-mail-у а ветру даручаю вестку

прывітаньне! учора йшоў летні
дождж але калюгі выглядаюць на восеньскія

канец стагодзьдзя

*1997*

## СКОЛ

Таямніца за паверхняй.
Бачу неба, бачу дол.
Нахіляюся і сьмела
Я раблю вялікі скол.

Я ня буду слухаць шэпты.
Дождж цярусіць, лье ў падзол.
Не адмоўлюся ад мэты —
Расчытаці сьвежы скол.

Як пра вецер сьведчаць птушкі,
Пра гульню — фінальны гол.
Мне адкрые таямніцу
Грубы нечаканы скол.

*2001*

* * *

Хто бачыў магілкі птушыныя?
Мільёны дробненькіх грудкоў.
А можа, ў хвалях мора сіняга
Хаваюць іх, як маракоў?

Дзень-ноч мільгаюць неўтаймоўныя,
Шляхоў пункціры неба ткуць.
Лятаць — вось самае галоўнае!
Няма калі спачыць-заснуць!

*2000*

* * *

Над лесам птушкі праляцелі.
Яны пасьпець кудысь хацелі.
У кожнай ёсьць душа і цела,
І цела за душой ляцела.

*2000*

* * *

Ляцець ад відна да відна.
Крылом дакрануцца крыла.

Прамкнуць праз магічнае шкло.
Крылом падтрымаці крыло.

Ніякіх хвальшывых дылем.
Заўсёды на пругкім крыле.

*2000*

* * *

Слава тым, хто трымае гняздо,
Хто ўнікае зязюльчынай долі,
Хто з галінак складае свой дом,
Хто ня схібіць у справах ніколі.

Гэты мудры, стары запавет
З малаком мы ўсмакталі аднойчы.
І на гэтым стаяцьме наш сьвет.
І глядзець нам ня сорамна ў Вочы.

*2000*

* * *

За хмызамі, за лясамі,
Між балотаў і лугоў
Рай птушыны захаваны
Ад хвароб і ганчакоў.

Там ня думаюць пра крыўды,
Там ня клянчуць медзякі,
Там не падразаюць крылы
І ня мнуць слабым бакі.

Вы спытаеце, напэўна:
Як патрапіць ў гэты рай?
Вам жаўрук адкажа сьпевам.
Вам пакажа шлях ручай.

*2000*

## ДЗІЦЯЧЫ ВЕРШЫК

Чыж
аблюбаваў Парыж.
Шпак
марыць пра Ірак.
Журавель
паляцеў у Брусэль.
Варона
сьцягнула карону
з ангельскага трону.
Бугай —
сэпаратыст,
ён аб’явіў непадлеглым
свой балацяны край.
Верабей,
каб падалей ад радыяцыі,
эміграваў у Бамбей.
Гіль —
у Ізраіль.
Сарока —
у Марока.
Дзяцел —
наадварот,
ён патрыёт,
любіць Нарач і Мядзел.
А гусь —
ведама, тутэйшая,
гаворыць уголас: Расея,
а ў думках гучыць — Беларусь.

*2000*

* * *

прачнуліся птушкі — а дзень ужо скончыўся
пецьпачалі — сонца клікаць
сонца пабудзілі, ды самі стаміліся
сон змарыў — дзе сядзелі, там і паснулі
а тая, што ў палёце была
зоркай зазьзяла — вечарніцай

*2000*

## ВАВЭЛЬ

Каля абарончых мuroў Вавэля
бутафорскі дракон
пэрыядычна
дыхае полымем у бок Віслы,
але зусім ня страшна
нават маленькім дзецям,
якія са сьмехам абступілі страшыдлу,
як факіра на сьвяточным кірмашы.
Я зноў блукаю ля тваіх муроў — Вавэль,
здаецца, ведаю цябе зь сівой даўніны
столькі ж, колькі гэтыя Пагоні на тваіх
брамах і сьценах.
Скачуць вершнікі да роднага Полацку,
нясуць весткі з Вавэля —
не загады, бо ня любіць Полацак загадаў, —
толькі весткі пра інтрыгі, балі і фаварытаў,
альбо просьбы аб вайсковай дапамозе;
няшмат тваіх слаўных сыноў, Полацак,
наведвалі гэтыя шыкоўныя залі,
ступалі на гэты ганаровы брук,
дзівіліся з гэтых шэдэўраў-габэленаў,
якімі шчодра завешаны сьцены палацу;
а хто і патрапляў сюды,
на вочы караля суседняе краіны,
ці заўсёды ён памятаў пра цябе,
вялікі Полацак?
Ці не асьляпляла яго багацьце
і пашанота двара манарха?
Ці не прачыналася тут, сярод бляску
і велічы, пачуцьцё зайздрасьці і сваёй
непаўнавартасьці?
І тады, забыўшыся на гонар,
сьпяшаліся зайздросьнікі засьведчыць

сваю адднасьць чужому каралю,
зракаліся сваіх звычаяў, традыцыяў, мовы,
забыўшыся на цябе, Полацак.
Быў у гэтых краёх, прынамсі, адзін палачанін
які выправіўся юнаком у далёкі Кракаў,
звалі яго Францішак;
толькі не блукаў ён па каралеўскіх залях,
не разглядваў біблійных сюжэтаў
на вялікіх — на ўсю сьцяну — габэленах,
не частаваўся смажанай алянінай са стала манарха
— па веды выправіўся ў чужаніцу Францішак.
Я ступаў на тыя самыя сходы,
па якіх хадзіў дапытлівы палачанін,
гукаў у тыя самыя сутарэньні,
якія памятаюць голас юнака зь берагоў Дзьвіны,
дакранаўся да сьценаў храму навукі,
якія захоўваюць цеплыню ягоных далоняў,
пытаўся ў прафэсараў: як пабачыць земляка?
Ды ніхто ня ведаў — толькі пацпіскалі ў адказ
плячыма.
Усё адно я знайшоў яго.
На хвіліну Скарына адарваўся ад пільнага занятку
і, як сучасны кампутар, імкліва счытаў з майго
твару
апошнія навіны з Бацькаўшчыны.
Ня буду доўга замінаць, дружа Францішак,
о! колькі наперадзе ў нас працы!
Да пабачэньня! Плёну дзеля велічы роднага Полацку!
А я сёньня адпачываю.
Вечарам зь сябрам выправімся
ў містычную рэстарацыю “Ружы і кроў”,
дзе замовім чырвонага віна,
якое, перш чым наліць у нашыя фужэры,

даюць пакаштаваць на смак.
Мы вып’ем за Полацак і за тваё здароўе,
дружа Францішак!
Я буду па-беларуску
апавядаць сябру пра чароўнае месца,
дзе Палата сустракаецца зь Дзьвіною,
дзе Ян Баршчэўскі напаткаў
свае фантастычныя прыгоды,
дзе Ластоўскі шукаў таямнічыя лябірынты…
Мой суразмоўца, які ніколі ня быў у Полацку,
будзе ветліва слухаць,
часам незаўважна пакідаючы цьмяную
залю-сутарэньне
дзеля якіхсьці тэрміновых развагаў і думак.
Я гатовы апавядаць гэтым сьценам, манэкену мніха,
які стаіць за маёй сьпіной,
і нетаропкай афіцыянтцы…

Заўтра Вавэль будзе такім самым, якім памятаю яго
зь мінуўшчыны,
і пазаўтраму, і праз год, і праз стагодзьдзе,
і толькі Полацак будзе мяняцца:
адновіцца ўнівэрсытэт, вярнуўшыся ў муры
былога Езуіцкага калегіюму,
адбудуецца сабор сьвятога Стэфана,
паўстануць помнікі героям, якія праславілі места,
народзіцца пантэон выбітных людзей Краіны,
а пад старажытнымі скляпеньнямі ўнівэрсытэту
зноў галава Дзядка, якая ўмее гаварыць на тузіне
эўрапейскіх моваў, будзе даваць парады
полацкім шкалярам.
Калі ты прыедзеш адпачыць да нас у Полацак,
я абавязкова звяджу цябе да гэтай разумнай галавы,

каб ты сам-насам запытаўся ў яе
пра ўласнае патаемнае,
пасьля чаго я правяду цябе па полацкіх лёхах
да самых Бельчыцаў,
дзе мы зойдзем у рэстарацыю “У братоў базыльянаў”,
замовім чырвонага віна і вып’ем за цябе, Вавэль!

*Кракаў-Полацак, травень 1999 г.*

## НА ПОШУКІ ЗЬМЕЯ НАРАТА

О, гэты сьмяльчак, Раул Бопп*,
які накінуў на шыю Зьмею Нарата
пятлю і засіліў гразу сэльвы Амазонкі.
Ён так марыў ажаніцца з дачкою каралевы Лузіі,
што ўлез у скуру сваёй ахвяры
і зьмеям выправіўся на пошукі абраньніцы.
— Куды ж ты, Зьмей Нарата? — пытаюцца
ў Раула Боппа жыхары сэльвы.
— Хачу я бачыць дачку каралевы Лузіі, —
адказваў усім сьмяльчак Раул.
Няпросты ён выбраў шлях — праз сэльву,
праз балоты, праз выпрабаваньні.
Уладзімер Славук** намаляваў бы
шыкоўныя ілюстрацыі да гэтай гісторыі.
Зьмей у яго атрымаўся б як сапраўдны —
блішчыць луска цела пад месячным сьвятлом,
блішчаць вочы Зьмея, выпраменьваючы адвагу
і непахіснасьць,
а з-пад кожнай купіны, з-за кожнага дрэва
сочаць за ім жыхары сэльвы —
хіжыя, кіпцюрыстыя, ікластыя;
толькі страшныя абрысы Зьмея Нарата
ратуюць Раула ад нападу кракадзілаў, ягуара і піраней.
О, гэты сьмяльчак Раул Бопп!
Як моцна ён жадае дачку каралевы Лузіі!
Вядома, ён пройдзе праз усе выпрабаваньні,
бо за праважатага ў яго адвага і ўпартасьць,
ён выкрадзе сваю абраньніцу, яны возьмуць шлюб
і будуць жыць, як і марыў Раул,
у краі Бязьмежных Земляў.
Там, напэўна, яны жывуць і зараз, і там я іх сустрэну,
калі наведаю край, дзе горныя ланцугі ўздымаюцца
ў неба,

дзе цякуць празрыстыя рэчкі між мулунгу — дрэў з экзатычнымі кветкамі. Сам Раул будзе маім гідам, ён пазнаёміць мяне з сябрамі і раскажа праўдзівую гісторыю пра Зьмея Нарата і дачку каралевы Лузіі, затым наладзіць выправу ў амазонскую сэльву, будзе па-сяброўску пахлопваць па гузаватых баках кракадзілаў, перасьвістваца зь дзіўнымі птушкамі, частаваць ягуара са свайго паляўнічага нажа.

Ноччу, калі поўня падзеліць сэльву
на дзьве роўныя часткі,
я прачнуся і старожка выберуся з намёту,
падкіну дроў
у амаль згаслае вогнішча і ўпэўненым крокам
пайду ў цямрэчу
зь ліанаў, пальмаў і трысьнягу —
клікаць Зьмея Нарата.

*2000*

---

* Раул Бопп — бразыльскі паэт пачатку XX стагодзьдзя.
** Уладзімер Славук — сучасны беларускі графік.

* * *

Па палянцы па далінцы
скачуць конікі-наддзьвінцы
ускрай балоцца і вады ля
як жаўнеры маладыя

Скачуць конікі бяз стомы
абмінаюць гай знаёмы
дзьве дарогі стаў для быдла
плот стары сьлед матацыкла

Усё нясецца міма міма
краскі роднага кіліма
пчолы птушкі котка Кася
што ўсьлед ім пагналася

Залатыя сонца промні
як прадукт каменаломні

За палянкай за далінкай
шлях закрэсьлены галінкай

*2000*

* * *

Ня думаць пра сон і паразы,
Свабоду карміць з далоні,
Раздаць безмаетным запасы
І выкінуць плэер “Sony”.

І слухаць, як гойсае вецер,
Што робіць падушны вопіс…
Сьмерць — непісьменная лэдзі —
Паставіць свой крыжык-росьпіс.

Закуты ў цяжар цела,
Шукаеш таемныя дзьверы…
Здаецца, патрэбная сьмеласьць,
А досыць адной веры.

На беразе вечнага часу,
Дзе робяцца друзам выгоды,
З апошняга хлеба запасу
Ты корміш птушку Свабоды.

*2001*

## ГІМН ПОЛАЦКА

Горадоў на зямлі шмат прыгожых стаіць,
Кожны з тых гарадоў можна шчыра любіць.
Толькі Полацак наш даражэй нам за ўсе
У сваёй панадзьвінскай красе.

*Мы песьняю славім наш горад сівы,*
*Перад ворагам ён не схіляў галавы.*
*Хай ня згубяць твае караблі*
*Шлях да роднай бацькоўскай зямлі!*

Мы нашчадкі Скарыны, і слова яго
Нас вяртала здалёк да сваіх берагоў.
Праз стагодзьдзі нам веру й надзею дае
Еўфрасіньня і справы яе.

*Мы песьняю славім наш горад сівы,*
*Перад ворагам ён не схіляў галавы.*
*Хай ня згубяць твае караблі*
*Шлях да роднай бацькоўскай зямлі!*

*2002*

## НАД ПОЛАЦКАМ

Незаўважна ляціць над Полацкам
Невядомы аб’ект паветраны,
Не санлівай ў калюгах ваколіцай,
А над самым цэнтрам — ў бок Ветрана.

І ня бачаць яго густабровыя
Вэтэраны — народ без гадзіньнікаў.
Нат’ радары ня ловяць вайсковыя,
Што пад Полацкам сочаць пільненька.

Над Сафійкі крыжамі саборнымі,
Над часоваю дзьвінскаю прыстаньню
Незаўважная, непакорлівая
Павуцінка ляціць серабрыстая.

*2003*

* * *

Дзічыну вязуць крывічы
У Полацак лесам аблажным.
Шлях ведаюць коні ўначы.
Яліны праверацць паклажу.

Дазор каля Бельчыц гукне.
Сваіх ён няўжо не пазнае?!
Між дрэваў, нібыта ў вакне,
Сафія дасьвецьцем лунае.

*2003*

* * *

Ня ўцяміць гэты вэрхал — не,
Як таямнічы небясьпечны стронцый.
Хто сёньня на арабскім скакуне —
Не разумее, што скакун ня з бронзы.

Вянкі сплываюць па рудой вадзе
Нібыта прынародна, а бязь сьведкаў.
Валошкі застаюцца кагадзе
Заўсёды на закінутых палетках.

*2005*

* * *

Вось і лета свой парадак усталёўвае
са сваім раскладам дня
з адмысловымі сьвітанкамі
і зьмярканьнямі
з водарам кветак
сьпевамі птушак
і відамі
сельскагаспадарчай працы

у кожнага пэрсанажу
гэтай дзеі
якая завецца лета
сваё месца і роля
і калі ты не патрапіў
у трупу
гэтага таленавітага рэжысэра
не адчайвайся
твой прагляд
можа адбыцца
у любую хвіліну
цябе паклічуць
бо столькі яшчэ
незанятых роляў

*2005*

* * *

калі першыя маразы
пачынаюць па начах
шкліць чорныя калюгі
заўважаеш —
вада ў Дзьвіне
без удзелу эколягаў
і станцыяў водаачысткі
робіцца ўсё больш
празрыстая

і сьцішаная

вялікая рака рыхтуецца
да адпачынку

нібыта пад гіпнозам
паўнатварага месяца

які не міргаючы
глядзіць у рачныя хвалі

яшчэ некалькі дзясяткаў сэансаў
і рака здасца —
з галавой схаваецца
пад коўдраю лёду
і засьне

*2006*

* * *

сабаку накарміць
прылашчыць
зазірнуць у вочы
сказаць добрае слова

выйсьці на шпацыр

паслухаць як шамацяць ільдзіны —
абуджаная Дзьвіна
як авечыя статкі
гоніць іх
на кірмаш у Рыгу

песьня вялікай ракі ў адліжную зіму

прайсьціся ўздоўж берага
нічога не кранаючы
не пакідаючы сьледу

укінуць у раку закаркаваную бутэльку
зь лістом да грамадзянаў сьвету

*2005*

* * *

недзе з усходу гудок цеплаходу
ліпеньскім ранкам
што толькі не прымроіцца
знаёмы хлопчык Ваня
ля вусьця Палаты
прамывае праз сіта
рачны пясок —
скарбы шукае
кірлі патрулююць сваю тэрыторыю
хто ім яе разьмеркаваў?
можна розныя выказваць здагадкі
але наўрад ці знойдзецца
дакумэнтальнае пацьверджаньне
у высокіх травах
што атачаюць бераг
дзьве вужакі спляліся
пульс крыніцы
і ўдары ўласнага сэрца
якое надзейна схавана
пад зялёным покрывам
лодка з прабітым дном
якую прыбіла сюды паводка
яна нетутэйшая
і ёй няёмка
і за сваё калецтва
і за падгляданьне
можна сказаць ненаўмыснае
як мы цалуемся
пад старой вярбой

*2009*

* * *

дзіўная гэтая гісторыя
як надышла цяперашняя зіма

яна дзейнічала па ўсіх правілах
захопніцкай вайны
калі трэба надзейна акупаваць
чужую тэрыторыю

спачатку зіма рабіла выгляд
што ёй ні на чым не залежыць
і яна ўвогуле не зьбіраецца
прыходзіць

да самых калядаў было цёпла

і калі людзі адгулялі
свае галоўныя сьвяты
калі яны згубілі пільнасьць
зіма заатакавала

спачатку некалькі дзён
ішоў сьнег
сьцяной
як абстрэл мільёнаў лучнікаў
або незьлічонай артылерыі

затым у бой уступілі
асноўныя сілы
маразы

яны ня ведаюць літасьці
а іхны ваявода Зюзя
проста монстар

і вось поўная перамога

для пераможцы сьвеціць сонца
гучаць гімны
нават безгалосых вераб’ёў
прымусілі сьпяваць

на крыжы Сафійкі
сядзіць чорны крумкач

*2012*

***

*Данілу*

пачнем спачатку
каб унікнуць канца

самы надзейны спосаб

гэта нават не вяртаньне
хутчэй адмысловы працяг

пазьней я пакажу табе
свае любімыя мясьціны:
рачулку што блукае між пагоркаў
і заімшэлых вялікіх камянёў —
нібыта зачараваныя валадары
яны ахоўваюць велічнае навакольле

дрэвы тут шапочуць
без дапамогі ветру

ўсё гэта будзе тваё

бо нельга забраць у чалавека тое
што ён любіць

як нельга адабраць у неба
аблокі

кожны нараджае сваю любоў
але ёсьць тая любоў
якая нарадзіла цябе

ня ў нас усё
але праз нас

*1996*

* * *

ты кажаш
памыліўся ў чалавеку
маўляў
чакаў ад яго нечага істотнага
і лёсаноснага —
не дачакаўся
і зараз пачуваесься
падманутым і зьнявераным

дарма так лічыш

ніводзін чалавек на сьвеце
ня можа табе даць
прадмет твайго чаканьня

бо нельга даць чалавеку любові
калі ён ня любіць

бо нельга нічога ўзяць
не працягнуўшы сваёй рукі

і яшчэ зразумей
ён —
толькі часьцінка нечага
толькі сэгмэнт
толькі чалавек

*2006*

* * *

былыя кадэбоўцы і сьмершаўцы
зь сівымі фрызурамі і каменнымі тварамі
грэюцца на лавачках у парку

прамотары веку атэізму
з трывогай пазіраюць
у бок бліскуча-залатога купалу сабору

карціць зайсьці ў бажніцу
і паставіць сьвечку

ды віджэжы пераймаюць
ля царкоўнае брамы

так страшна памерці

*2006*

* * *

на дракары між аблокаў
вяслуе сьвяты Торвальд
шляхам з варагаў у Полацак

месяц гойдаецца луньніцай
зоркі паміж пальцаў
вялікі крыж на ветразі

толькі гэты крыж і бачна
час ад часу сярод аблокаў
крыж Торвальда

*2012*

## УСЯСЛАЎ

*(акраверш)*

Паперадзе шыхтоў ваярскіх,
Еднасьць дэманструючы і сьмеласьць,
Радзімы сьцяг трымаючы ў руках,
Аднекуль, як з самое аблачыны,
Містычна князь Усяслаў зьявіўся на кані.
О! Як прыгожа ён узьняў свой меч!
О! Як высока ўзьляцелі родныя аблокі!
О! Як сувора ў дзідах вецер адгукнуўся!
Гул па шыхтох панёсься: Усяслаў!!!
Аднолькава загрукалі ў грудзёх крывіцкіх сэрцы.

*2005*

* * *

На жаль, машыны часу не існуе,
Каб выправіць памылкі ў мінулым.
Засвойваць урокі застаецца,
Канспэктаваць, як пачаткоўцам-вучням,
Не прамінаючы ніводнае драбніцы
З падзеяў прамінулых і вірлівых,
Высновы робячы ўласнымі глуздамі,
Ня слухаючы голасу чужынцаў,
Гартуючы ў сабе змагарскі дух.

Тады адрозьніш ты беспамылкова
Гук таямнічы, гук тваёй свабоды, —
Нібыта пошум хвояў гонкіх,
Ці зумканьне чмяля над кветкай канюшыны,
Ці сьвіст стралы, што ведае свой шлях.

То будзе граць сурма ў дзень паводкі,
Якая нечакана завіруе
Вакол цябе шалёным карагодам,
І панясе, і панясе на хвалях моцных
Маленькі карабельчык тваёй мары,
Адкрыўшы для яго ўвесь сусьвет.

І гэта будзе сьвятам разьвітаньня
Зь мінулым — застаялым, шэрым, нудным,
З самім сабой, якім ты быў раней.

І гук сурмы надзвычай узмацніцца
Калі твой сьцяг нарэшце залунае
Вышэй за ўсе вязьніцы на Зямлі.

*22.01.2011*

## ВЯРТАНЬНЕ Ў ПОЛАЦАК

Нас будуць сустракаць, як Гагарына,
Шампанскае адкаркоўваць на гаўбцах.
Мы плянуем вяртацца па бульвары Скарыны.
З пажарнай вежы на галовы сыпануць канфэці.

Наперадзе нашай калоны будзе граць “Стары Ольса”,
А над галовамі — імчацца дэльтапляны.
Вінцэсь Мудроў будзе шпацыраваць босы,
Са сьлязой на шчацэ і ад шчасьця п’яны.

Каля помніка Францыску Скарыну
Наша калёна прыпынецца на хвіліну.
Прамову скажа Лявон Баршчэўскі
Пра тое, што Скарына быў малец някепскі.

Затым калёна рушыць далей па бульвары,
А Сокалаў-Воюш дастане сваю гітару,
Будзе сьпяваць пра невядомага касінера,
Які аддаў жыцьцё, каб не зьнікала наша вера.

Ля помніка Цэнтру Эўропы
Уладзя Лобач распавядзе легенду пра цыклопа,
Новую, запісаную ў апошнюю экспэдыцыю,
Якую ладзілі студэнты на Верхні Замак за бальніцу.

Каля Сімяона Полацкага Якуб Лапатка
Будзе чытаць вершы манаха гладка
У перакладзе на фінскую мову, мовячы,
Каб было зразумела нават на поўначы.

Ну а ля знака “У нескладоваму”, ад перадозы любові,
Уладзя Арлоў насьмеліцца прасьпяваць
песьню Бон Джові.
Яму падыйграюць на губных гармоніках
Аніса і Ален — два рокеры-законьнікі.

І я там быў,
Кока-колу піў,
Чытаў вершы ля помніка Тарычу,
Еў вінаград і алычу,
Пра астатняе прамаўчу.

*26.01.2011*

## ПОЛАЦКІЯ ТРОХРАДКОЎІ

* * *

Ля Сафійскага сабору
над вежамі-званіцамі
разглядаю зорку

* * *

Вікінгі
мінаюць Полацак
заўжды ўночы

* * *

Асірацела Дзьвіна
бяз парусьнікаў
апошні — на гербе горада

* * *

У Спаскай царкве
рэха асаблівае —
мінулае побач

* * *

Дзівосны сон:
у мніха набыў мапу
полацкіх лябірынтаў

* * *

Ля Валовай азярыны
Пярун зьяўляецца
кожную навальніцу

* * *

На санках ляцець
са схілу Замкавай гары
насустрач непрыяцелю

* * *

У дворыку Езуіцкага
калегіюму працуюць археолягі:
грукаюць рыдлёўкі аб цэглу

*2003*

* * *

нібыта пруткая трава
нібыта карэньні
магутных дрэваў
уздыбілі асфальт
на цэнтральных вуліцах
сівагаловага Полацку

гэта абудзілася
старая брукаванка
кажа мне Ян

гэта людзі полацкіх сутарэньняў
шукаюць выйсьця
кажа мне Власт

гэта пачынаецца
новае стагодзьдзе
кажа мне ўнутраны голас

*2006*

* * *

у Жодзіне на мосьце
пад якім шуміць вадаспад
гляджу на гульню пырскаў

усплываюць відзежы
дзяцінства

трансьляцыя празь дзесяцігодзьдзі

Пліса ашчадна
(даражыць кожнай кропелькай)
коціць свае воды
у Бярэзіну

вадаспад як мытня
кожная кропелька
праходзіць агляд

недзе там унізе
пад замшэлым каменем
схаваўся мянтуз
з маім залатым кручком
у роце

*2005*

* * *

на царковішчы
засталіся
апошнія волаты-ліпы

ты добра памятаеш
як раней яны суладна
цьвілі штотравень

казачная краіна
з кветак і пчолаў

на месцы царквы
пабудавалі
прадуктовую краму

а неўзабаве
пачалі зьнікаць ліпы

ліпы тваёй казкі

дзякуй дарагія
што часам
прыходзіце ў сны
і дасылаеце
вестачкі праз пчол

2006

* * *

што з гукамі
***е у а***

***е***ду п***а*** вуліцы
р***а***нк***а***м н***а*** ров***а***ры

в***е***ц***е***р ***у*** тв***а***р

р***а***д***а***сн***а***

*2008*

***

шлях ад электрычкі
да матчынага дому

колькі разоў ім кіраваўся!

у розныя бакі

і вельмі рана-раненька
і ўдзень і ўночы

нёс думкі і мары

а яшчэ
матчына блаславеньне
і клопат і трывогу

пакуль гэты шлях існуе
датуль я прывязаны пупавінай
да цябе
мой родны горад

*2005*

* * *

сябар-аднаклясьнік
запрасіў да сябе ў госьці

сядзім ля става на лавачцы
і згадваем маладосьць

побач Пліса гайдае на сваіх хвалях
белатварыя лілеі
а за ракой
пачынаецца знаёмы лясок —
зялёным пасам ён выцягнуўся ў бок
карпусоў піянэрлягеру
у якім штолета ты бавіў
вольны час свайго дзяцінства

ці растуць зараз у тым ляску
суніцы?

ці грэюцца на іглістых сьцежках
яшчаркі?

ці хаваюцца пад маладымі елачкамі
сямейкі масьлякоў?

ці варта ўсё гэта спраўджваць?

*2005*

## ПЛАЦІНА

Сяджу над плацінай, як Бог над сусьветам,
Вясёлка ўнізе між пырскаў мне сьвеціць.
Уверсе камэты — як авіяшоў —
Па парах ляцяць, паглядзі, проста шок.

Вада аглушае, як выступ Грэнд Фанка,
Хоць гэта Пліса, а ня арыі Ганга,
Сваёй гіпнатычнасьцю вабіць, як Вій,
Гучаць мае модлы: не ўкрадзі, не забі.

Дарэмныя толькі мае хваляваньні,
Плаціна пра іншае думае ўраньні:
Калі першы промень кранецца вады,
Ты надпіс убачыш, які праз гады

Выразна ільсьніцца на засаўцы шлюза —
“Люблю цябе Таня”. Няма ўжо Саюза,
Няма тых людзей, што плаціну ўзьвялі,
А надпіс жыве й будзе жыць на зямлі.

*28.01.2011*

## ПРАГУЛКА НА БЕЛАЗЕ

Даўнюю маю мару — праехацца на БелАЗе
Па вуліцах роднага Жодзіна:
Сыгналіць красуням-модніцам,
Трымаць нагу цьвёрда на газе.

Заеду на стадыён "Тарпеда",
Каб круг зрабіць з развароту,
Адзін, каб пасьпець да абеду
Вярнуць аўто для завода.

Затым парулю на Брызгалаўку,
Каб змыць пыл дарожны з твару.
Дазволю на белазаўскую палубу
Узьняцца якомусь малому.

Дазволю ўявіць пагоню,
Крыкнуць на ўсё горла:
Нас ніхто не дагоніць!
Нас ніхто не дагоніць!

Затым пракачуся да ДРЭСа
Па родных з маленства сьцяжынках.
Будуць мець добрага стрэса
Улады свае — зь Дзяржынкі.

*27.01.2011*

# СЬВЯТЛО ВЯСНЫ

Вясной сьвятло зусім іншае. Яно лагоднае. Не, інакш. Яно галаграмнае. Яно набывае новыя аб’ёмы, новую глыбіню. У яго можна ўвайсьці і зьнікнуць. Заблукаць, заблу-каць, за-блу-каць… у празрыстасьці.

Калі аблокі нібыта кранаюць верхавіны тапаляў. Калі дрэвы яшчэ голыя, але ўжо абуджаныя. Ахутаныя сьвятлом. Ствалы, пасьвятлеўшыя, вільгатнеюць ад хваляваньня.

І яшчэ — сьвятло радаснае. І гэтай радасьцю кранае цябе. Як дзявочы дотык. Выпадковы. Нечаканы. Які — ты гэта ведаеш — насамрэч інсьпіраваны, і ад гэтага веданьня табе радасна і сьветла.

Ты выходзіш на двор у вясну. Дакранаесься рукой да сьцяны свайго цаглянага двухапавярховіка і з прыемнасьцю грээш далонь.

О, гэта ўжо вясна сапраўдная! Яна грэе тваю далонь і кліча ў квецень.

Ад зыркага сьвятла ты мружыш вочы, сам сабе пасьміхаесься. Сьвятло цябе кранае радасьцю. Канікулы. Нікуды ня трэба сьпяшацца.

Зраніцы ты чытаў кнігу. У галаве яшчэ засталіся малюнкі сюжэту. Штосьці пра вандроўкі па далёкіх, дзіўных, экзатычных краях. І гэтыя малюнкі няўзнак накладаюцца на звыклы “трафарэт” твайго двара, надаючы навакольнай звыкласьці нязвыклую рамантычнасьць.

Недзе ў гэты час звычайна прыходзіць паштарка. Ты чакаеш яе. Стаіш ля свайго пад’езду і выглядаеш кабету з цяжкай, брухатай сумкай.

Яна зьявіцца ўсё адно нечакана, выйдзе з-за рогу твайго дому, недзе ў пяці мэтрах ад цябе. Звыклым пасьпешным крокам. Пройдзе побач. Ты не падаш выгляду, што яе чакаеш. Павітаесься. Затым вытрымаеш паўзу. Кабета выйдзе з твайго пад'езду і схаваецца ў суседнім. Вось цяпер пара.

Некалькі крокаў — і ты ля паштовых скрыняў, што вісяць побач зь дзьвярыма бацькоўскай кватэры. Сёньня павінна быць літаратурная старонка ў мясцовай газэце. І ў ёй твае вершы. Пра вясну.

*2008*

* * *

рукі на ўзроўні плеч
не
гэта не фіззарадка
у дзіцячым летніку
“Чайка”
і гэта не разьмінка
на ўроку фізкультуры
пад кіраўніцтвам
Браніслава Вікенцьевіча
у СШ № 1 імя Пятра Купрыянава

рукі на ўзроўні плеч
і порстка-порстка
перабіраючы нагамі
рухаючыся па коле
хутчэй яшчэ хутчэй
адзін за адным
па коле па коле
хутчэй хутчэй

мільгаюць вокны
толькі вокны якія
пакінулі рамы дамоў
толькі вокны распазнаеш
у гэтым шалёным тэмпе
лязгінкі

*2010*

* * *

марыць па-сапраўднаму
гэтага ў нас ніхто не забярэ
пра што — не істотна
бо марыць —
як мець надзею
на лепшае і сьветлае
і не істотна што сьвет
як дзіцячы калейдаскоп
пры кожным руху
укладае новы малюнак
з прастакутнікаў ромбікаў
трохкутнікаў і кружочкаў —
падставовых матэрыялаў
для любой сур’ёзнай справы

мара — гэта вочка калейдаскопу
глядзець у якое дазваляецца
у час гульні зь дзецьмі
у час сьвята нашага таямнічага
і ў свой апошні час

*2008*

## РЭХА МІЖ КАМЯНІЦАЎ

скрозь Вострую Браму
мінаем, як скрозь магічнае
шкло, і трапляем
у іншы сьвет

ня ведаю, ці выпадзе
нам сустрэцца ў
тым іншасьвеце

бо ты намагаесься
яго ўбачыць —
нібыта сьвет толькі тое,
што можна ўбачыць

а я спрабую пачуць —
нібыта гук больш трывалы
за камень

беспрытульнае рэха
нястомна блудзіць
між камяніцаў,
зазіраючы ў вокны

толькі рэха

*2003*

* * *

на Літарацкай горцы
на могілках Роса
Аляхновіч абдумвае
новую п’есу

пра што тая п’еса?

пра вечнасьць
якая кіруе
зорамі на небе

пра сум
які незварушна
пільнуе магілу

пра час
які бязьлітасна
нахіляе да зямлі
помнік

*2003*

## ВЕЧАРОВЫ ШПАЦЫР ПА ВІЛЬНІ

шпацыраваць па дахах Вільні!
дзівак!
ты напэўна ўяўвіў
што ўсе таямніцы горада
чакаюць твайго прышэсьця

* *

ісьці па вечаровай вуліцы
пасьміхацца
і насьвістваць мэлёдыю
ігнаруючы аўтарскія правы
Джона Пола Джорджа і Рынга

* *

дзень старанна
зьбірае
дробныя манэткі
а ноч
імі шчодра
разьлічваецца

*2001*

***

я дзяжурны па станцыі
на рэальнай чыгунцы — там дзе рэйкі і шпалы
там дзе таварнякі цяжка гружаныя
з двух бакоў шчыльна атачылі твой экспрэс
які ляціць з Полацка
у зіхатлівую калядную Вільню

ліхтарык у руках мігціць —
упрошвае таварнякі расступіцца
вызваліць шлях экспрэсу
у якім імчыцца да мяне мая каханая

*2005*

## ЧАМУ ПРАЎДА ТАКАЯ СЛАБАЯ?

ня раз задаваў сабе пытаньне
чаму праўда такая слабая
а хлусьня такая моцная

а сёньня падумалася
праўда заўсёды слабая
на гвалт і прымус
і заўсёды моцная
на веру і справядлівасьць

* *

хлусьня гэта драўляныя салдаты
Урфіна Джуса
бяз сэрца без спагады

не працягвай руку хлусьні
не спрабуй зь ёй паразумецца

бараніся праўдай

* *

хлусьня як атрутная жамяра
якая мусіць уджаліць
каб упырснуць сьліну няверы

найлепшая прышчэпка — трымацца свайго

* *

у хлусьні кароткія рукі
каб схаваць Каліноўскага
каб прымусіць маўчаць Купалу
каб забраць грамадзянства БНР
у Ларысы Геніюш

*2006*

## ВІЛЕНСКІЯ ТРОХРАДКОЎІ

* * *

На Гедымінавай гары
пад нагамі турыстаў
шукаю магілу героя.

* * *

Няўжо і ты, Вільня,
спадзяесься на літасьць
лёсу ў год каня?

* * *

Вось і ноч скончылася,
а над Вільняй
ня гаснуць зоркі.

* * *

Нічога не пакінуў Вільні —
толькі цьмяныя сны,
толькі мроі.

* * *

Гукні мяне, Вільня, —
я пачую,
я адгукнуся.

*2003*

* * *

над крыжамі
беластоцкага фарнага касьцёлу
завісла воблака
што ляцела з Полацку
на захад

усьлед за сонцам
усьлед усьлед

каб ніколі не засынаць

ляцець і ляцець
ляцець і ляцець

але так стаміў
воблака
шлях над Беларусяй
што яно
адолеўшы мяжу
вырашыла адпачыць

а лепшага месца для адпачынку
чымся нябесная затока
беластоцкага фарнага касьцёлу
сапраўды
цяжка і знайсьці

*2006*

* * *

У Беластоку і Полацку
аднолькавыя ночы
толькі ў Беластоку
няма вялікай ракі
у якой адбіваюцца
зоры і месяц
толькі ў Беластоку
няма аўтобуснага прыпынку
на якім
позна ўвечары
чакаю цябе з сынам

*2006*

## КАЛЕВАЛА

У белай краіне залева —
Ня блісьне ні справа, ні зьлева.
Такая вось Калевала —
Нас мала, нас мала, нас мала.
Дождж ідзе і час ідзе
Ў нашым белым горадзе.
Цікуе гадзіньніка вока
За ўсім, што віруе навокал.
І як бы ты нас ні шукала —
Нас мала, нас мала, нас мала.
Дождж ідзе і час ідзе
Ў нашым белым горадзе.
Чакаю таемнага знаку
Нібыта галоўны аракул,
Каб рэхам літаньне зьнікала —
Нас мала, нас мала, нас мала.
Дождж ідзе і час ідзе
Ў нашым белым горадзе.
Дождж скончыцца абавязкова,
Вясёлкі зазьзяе падкова.
Такая вось, брат, Калевала —
Нас шмат, дзе здавалася мала,
Нас шмат, дзе здавалася мала,
Нас шмат, дзе здавалася мала.
Нас шмат…
Дождж ідзе і час ідзе
Ў нашым белым горадзе.

*2007*

* * *

Fleetwood Mac
такім знаёмым голасам
зь беластоцкай FM-кі
запрашае да гарбаты

кіпень сапраўды ўжо гатовы
і лусьцікі накроены

дваццаць восемь гадоў таму
пад Fleetwood Mac
пры выключаным сьвятле
мы танчылі
на маіх провадах у войска

і цалаваліся
і марылі
і абяцалі

мары ня спраўдзіліся
абяцаньні даўно парушаны
засталіся толькі ўспаміны
пра дотыкі дзявочых вуснаў

*2006*

* * *

цяжка паверыць што недзе
глыбока пад зямлёю
расплаўленая магма
булькоча і пухірыцца
як разьятраны бульдог
які ірвецца з прывязі
каб пашкамутаць усё
на сваім шляху

утаймаваная зямной карой
магма не астывае і не супакойваецца
ужо мільярды гадоў

і толькі зрэдку паказвае
свае вогненныя языкі

нагадвае пра сябе

але ніхто ня хоча
тлуміць сабе галаву развагамі
пра агонь нябесны
і агонь падземны
пра недасяжнае
і няўцямнае

толькі агонь у печы
як прыручаная котка
блізкі і зразумелы

і цяжка паверыць
што там пад нагамі
булькоча і пухірыцца
магма

*2012*

* * *

Да фільму напісаць сцэнар,
З актoрам модным размаўляць аб ролі,
Якую вымысьліў з уласных мар,
А мусіш аддаваць — з усьмешкаю, бяз болю.

*2008*

* * *

Ты думаў, што ня хопіць на тваё жыцьцё
Сусьветных крызаў, перадзелаў сьвету,
Ня хопіць войнаў і таемных змоваў.

Ўсё паўтараецца. Зноў нараджаецца дзіцё,
Сталее, патрабуе лепшага абеду.
Ўсё пачынаецца нанова.

І толькі твая роля звыклай застаецца,
Праслаўшы ўсіх да дупы,
Яешню смажыць зь яек цмока
На сонечным алеі з Украіны…

*2008*

* * *

Жыцьцё — як рынак, як штрых-коды,
Ці як сняданак на батуце.
Чым большы попыт на свабоду,
Тым больш яна каштуе людзям.

*2011*

* * *

Восень, дзеці зьбіраюць каштаны.
Лісьце на дрэвах ў напружаньні перад палётам.
Кожны канец — ён заўжды нечаканы.
Кожны пачатак — як сьнег за вакном у суботу.

*2011*

***

*Юрыю Гуменюку*

Што табе сьніцца за кратамі,
Сябра-паэце?
Рыцар зь дзіцячымі латамі,
Ў часе загублены недзе.

Сонца за кратамі блісьне —
І па-ля-це-ла на захад.
Сумная гэтая песьня —
Ўсё ў ёй пра вольнага птаха.

Словы шыхтуеш ў радочкі.
Сэнс падбіраеш пацешны.
Сум дыягенавай бочкі
Згадваеш з мройнай усьмешкай.

Гулам вязьніца напоўніцца.
Сьмех паліецца адказам.
Мент загадае ахоўніку:
— Выведзі гэтага блазна.

*08.07.2011*

* * *

Ходзіць месяц імглісты па коле,
Кожны крок быццам просьба пазыкі.
Не вяртаецца памяць ніколі
У дзіравыя дуды музыкі.

Ты забыў пра татэмныя знакі,
Ты згубіўся ў імглістай прасторы.
Вецер вые, як дзікі сабака,
У сьляпым, без вакон, калідоры.

*2010*

* * *

Барыкадамі запруджаныя вуліцы.
Пырскі іскраў джаляць брудны брук.
Фаервэркі — зброя рэвалюцыі.
Сьцяг трымае пара моцных рук.

*24.02.2014*

* * *

Ноч… Вуліца… Ліхтар… Каляды…
Адбіткі ў шкле — як міражы.
Ў палон бяруць чужыя сьвяты,
Дзе ты чужы, чужы, чужы.
І толькі там, за рыпам весьніц,
Дзе сьпяць кудлатыя ільвы,
Мне прасьпяваеш тэму песьні
Бяз хвальшу робленай любві.

*20.09.2014*

## ЗЬМЕСТ

**Аркуш** Алесь

**Песьні ля Замкавай гары**

Рэдактар Вінцэсь Мудроў
Камп’ютарны дызайн, вёрстка Юлі Андрэевай
Мастак Анатоль Тадорскі
Карэктар Ліда Наліўка

Вокладка выканана паводле працы Тацяны Козік
“Мэлёдыі Замкавай гары”

Выдавецкая ініцыятыва “Полацкае ляда”